ЗМЕСТ

# СІТУАЦЫЯ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2019 годзе (АГЛЯД)

Сітуацыя ў галіне СМІ ў 2019 годзе была неадназначнай. З аднаго боку, на яе ўплывала агульная тэндэнцыя ўзмацнення дзяржаўнага кантролю над медыяпрасторай, з іншага – правядзенне ў Мінску II Еўрапейскіх гульняў падштурхоўвала ўлады да большай адкрытасці краіны. Таксама нельга не браць да ўвагі складаную знешнепалітычную і эканамічную сітуацыю ў Беларусі (перамоўны працэс з Еўрасаюзам і ЗША, узрастанне памеру знешняга доўгу і ціск з боку Расійскай Федэрацыі), а таксама выбары ў беларускі парламент (адбыліся 17 лістапада 2019 года).

II Еўрапейскія гульні прайшлі ў сталіцы Беларусі з 21 па 30 чэрвеня 2019 года. Незадоўга да іх правядзення праваабарончая арганізацыя Human Rights Watch заклікала алімпійскіх чыноўнікаў забяспечыць гарантыі недатыкальнасці журналістаў у Мінску:

«На працягу апошніх двух год улады Беларусі прадпрымаюць паслядоўныя крокі па ўціску свабоды СМІ, якія наўпрост уплываюць на абстаноўку, у якой журналісты будуць асвятляць падзеі ў краіне напярэдадні, падчас і пасля Еўрапейскіх гульняў… Еўрапейскія алімпійскія камітэты (ЕАК) павінны забяспечыць магчымасць свабодна працаваць усім замежным і беларускім карэспандэнтам, якія асвятляюць II Еўрапейскія гульні».

Насуперак засцярогам праваабаронцаў і журналісцкіх арганізацыяў, сур'ёзных канфліктаў, якія былі б звязаныя з ажыццяўленнем журналісцкай дзейнасці, падчас Еўрапейскіх гульняў не адбылося. Больш за тое, да пачатку Еўрапейскіх гульняў знізіўся ціск на журналістаў-фрылансераў, матэрыялы якіх з'яўляюцца ў замежных СМІ. Калі за першыя 5 месяцаў 2019 года суды 38 разоў штрафавалі такіх журналістаў за супрацу з замежнымі медыя без акрэдытацыі, то з 31 траўня такая практыка спынілася.

Аднак у верасні пасля трохмесячнага перапынку пераслед журналістаў-фрылансераў аднавіўся. У выніку за 2019 год БАЖ зафіксаваў 44 штрафы журналістам-фрылансерам на агульную суму 42049,5 беларускіх рублёў (каля 21 тысячы долараў ЗША).

Адной з самых галоўных праблемаў у галіне выказвання меркавання ў 2019 годзе быў крымінальны пераслед журналістаў і блогераў.

## Абвінаваўчы прысуд галоўнаму рэдактару TUT.BY Марыне Золатавай і завяршэнне «справы БелТА»

4 сакавіка суд Заводскага раёна Мінска прызнаў галоўнага рэдактара вядучага беларускага інтэрнэт-партала TUT.BY Марыну Золатаву віноўнай у бяздзеянні службовай асобы (арт. 425 Крымінальнага кодэкса Беларусі) і прысудзіў яе да штрафу ў памеры 7650 беларускіх рублёў (каля 3800 даляраў ЗША па курсе Нацбанка Беларусі). Акрамя таго, суд спагнаў з яе на карысць БелТА працэсуальныя выдаткі ў памеры 6000 беларускіх рублёў (каля 3000 даляраў).

Асуджэнне М.Золатавай сталася завяршэннем так званай «справы БелТА», узбуджанай улетку 2018 г.

Прычынай для яе ўзбуджэння сталася несанцыянаванае выкарыстанне некаторымі журналістамі пароляў да падпісной стужкі сайта дзяржаўнай інфармацыйнай агенцыі БелТА. (Пры гэтым матэрыялы сайта БелТА знаходзіліся ў адкрытым бясплатным доступе і размяшчаліся тымі СМІ, што патрапілі пад пераслед, з улікам правілаў, якія былі ўсталяваныя БелТА, а паролі да падпісной стужкі не мяняліся гадамі.)

7–9 жніўня 2018 года ў рэдакцыях інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, партала TUT.BY, рэдакцыях некаторых іншых СМІ, а таксама ў кватэрах шэрагу іх супрацоўнікаў адбыліся вобшукі. Падчас іх была забраная прафесійная тэхніка і носьбіты інфармацыі. Каля 20 журналістаў былі затрыманыя і дапытаныя следчымі, 8 журналістаў – адпраўленыя ў ізалятар часовага ўтрымання на тэрмін да 3 сутак. У стасунку да 15 журналістаў былі ўзбуджаныя крымінальныя справы паводле ч. 2 арт. 349 Крымінальнага кодэкса (несанкцыянаваны доступ да камputарнай інфармацыі, здзейснены з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці).

Дзеянні следчых выклікалі пратэсты з боку праваабаронцаў, журналісцкіх арганізацыяў і міжнародных структураў (у тым ліку Рады Еўропы, Еўрасаюза, АБСЕ).

Напрыканцы 2018 года крымінальныя справы ў дачыненні да 14 журналістаў былі спыненыя з прыцягненнем іх да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе буйных штрафаў і фактычным прымусам іх да выплаты кампенсацыяў БелТА і газеце Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі «СБ. Беларусь сегодня».

Адзінай абвінавачанай, прыцягнутай па «справе БелТА» да крымінальнай адказнасці, сталася галоўная рэдактарка інтэрнэт-партала TUT.BY Марына Золатава.

«Прысуд і штраф Марыне Золатавай, галоўнаму рэдактару TUT.BY, разам з непрапарцыйнымі захадамі праваахоўных органаў супраць БелаПАН і TUT.BY у 2018 годзе, могуць адмоўна паўплываць на незалежныя СМІ ў Беларусі», – адзначыў прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Арлем Дэзір.

«Тое, як беларускія ўлады настойліва займаліся гэтай справай з самага пачатку, паказвае іх рашучасць зашкодзіць канкурэнтам дзяржаўных СМІ», – заявілі «Рэпарцёры без межаў» пасля асуджэння М. Золатавай.

Старшыня Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь **Валянцін Сукала** заявіў, што павышаную грамадскую ўвагу да працэсу над Золатавай – прысутнасць дыпламатаў і рэпарцёраў – магчыма расцаніць як ускосны ціск на суд.

## Справа блогера Андрэя Павука

20 сакавіка Следчы камітэт Беларусі ў афіцыйным Telegram-канале паведаміў пра ўзбуджэнне крымінальнай справы паводле ч. 1 арт. 340 Крымінальнага кодэкса паводле факту заведамаілжывага паведамлення аб мінiраванні райвыканкама ў гарадскім пасёлку Акцябрскі. Падазраваным па справе стаўся Андрэй Павук, нумар мабільнага тэлефона якога быў указаны ў паведамленні аб мініраванні. 20 сакавіка А. Павук быў затрыманы, у яго ўдома быў праведзены вобшук і былі забраныя кампутар і іншая прафесійная тэхніка.

Паводле версіі следства А. Павук накіраваў электронны ліст у Гомельскае абласное аддзяленне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях з паведамленнем аб мініраванні Акцябрскага райвыканкама (мясцовы орган выканаўчай улады). Пасля допыту А. Павук быў вызвалены. Праз месяц крымінальная справа ў дачыненні да яго была спыненая, а сканфіскаваная тэхніка вернутая.

У траўні гісторыя з ілжэмініраваннем паўтарылася. На электронную пошту МНС паступіла паведамленне пра мініраванне суда ў г. Мазыр. Падазраваным ізноў стаўся А. Павук. Прычынай таму было, як і ў сакавіку, пазначэнне нумара яго мабільнага тэлефона ў паведамленні пра мініраванне.

Андрэй Павук звярнуўся ва ўпраўленне Следчага камітэта і Генеральную пракуратуру з просьбай высветліць, хто выкарыстоўвае яго асабістыя дадзеныя для лжывых паведамленняў пра мініраванне

дзяржаўных устаноў. Акрамя таго, ён звярнуўся ў суд з позвай да супрацоўнікаў міліцыі, якія парушылі яго правы падчас вобшуку. Ён патрабаваў ад іх кампенсавання маральнай шкоды за затрыманне ў сакавіку па падазрэнні ў ілжэмініраванні.

24 верасня, напярэдадні разгляду позвы ў судзе Акцябрскага раёна, блогер атрымаў у месэнджар Viber паведамленне з пагрозамі ад невядомых асобаў:

«Заўтра суд, і ты яго прайграеш. Тэма з вобшукам была створана для таго, каб ты задумаўся аб сваіх паводзінах, закрыў свой смярдзючы рот і ўладкаваўся на працу. Скажы дзякуй, што нічога не падкінулі. Калі будзеш займацца сабатажам і ачарненнем існуючай улады, будуць прымацца захады ў дачыненні да цябе. Сядзеш і твая [абраза] жонка будзе перадачкі насіць […]».

Аўтар паведамлення да цяперашняга часу не ўстаноўлены.

4 кастрычніка Андрэю Павуку пазваніў аператыўны дзяжурны РАУС і паведаміў, што ў міліцыю паступіла тэлефанаванне быццам бы з нумара самога Павука, падчас якога невядомы, які назваўся Андрэем і паведаміў яго хатні адрас, паведаміў, што «забіў сваю жонку Вольгу». Жонка Андрэя Вольга была вымушаная тлумачыць, што гэтае тэлефанаванне – правакацыя. У РАУС паведамілі, што «хулігана» знайсці не атрымаецца.

Суд у задавальненні позвы А. Павука да супрацоўнікаў міліцыі адмовіў.

## Крымінальны пераслед блогера Сяргея Пятрухіна

18 красавіка суд Ленінскага раёна Брэста прызнаў вінаватым паводле часткі 2 арт. 188 («Паклёп») Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь брэсцкага блогера Сяргея Пятрухіна.

У якасці пацярпелых па справе праходзілі чатыры супрацоўнікі Ленінскага РУУС Брэста (міліцыя). На Сяргея Пятрухіна па рашэнні суда быў накладзены штраф у памеры 360 базавых велічыняў (9180 беларускіх рублёў, што тоесна прыблізна 4600 далярам ЗША), а таксама забавязаў яго выплаціць у якасці кампенсацыі маральнай шкоды супрацоўнікам міліцыі **Сяргею Ігнацюку**, **Дзмітрыю Якушэвічу**, **Ігару Галянчыцу** і **Сяргею Токуну** ў агульнай колькасці 7500 беларускіх рублёў, што складае каля 3750 даляраў ЗША. Акрамя таго, блогер абавязаны кампенсаваць выдаткі пацярпелых на адвакатаў у памеры 1000 беларускіх рублёў і судовыя выдаткі.

Падставай для прыцягнення блогера да крымінальнай адказнасці сталіся відэаролікі, якія былі знятыя ў сакавіку 2018 года і трансляваліся на YouTube. У гэтых відэароліках С. Пятрухін заявіў аб датычнасці шэрагу супрацоўнікаў Ленінскага РУУС Брэста да збіцця ў міліцэйскім пастарунку ў 2016 годзе грамадзяніна **П. Камінскага**, які звярнуўся ў праваахоўныя органы з патрабаваннем расследавання інцыдэнта і распавёў аб гэтым блогеру.

Перад пачаткам судовага працэса 14 беларускіх праваабарончых арганізацыяў выступілі з патрабаваннем спыніць крымінальны пераслед С. Пятрухіна. На іх думку, крымінальны пераслед меў палітычна матываваны характар і быў звязаны выключна з рэалізацыяй С. Пятрухіным гарантаваных Канстытуцыяй і міжнароднымі нормамі правоў у галіне правоў чалавека свабодаў – свабоды выказвання меркавання, збору і распаўсюду інфармацыі.

5 ліпеня судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда пакінула рашэнне суда першай інстанцыі без зменаў.

## Рэйтынгі, індэксы

У штогадовым Індэксе свабоды прэсы міжнароднай арганізацыі «Рэпарцёры без межаў», апублікаваным у красавіку 2019 года, Беларусь заняла 153-е месца сярод 180 дзяржаваў свету, падняўшыся на дзве пазіцыі ў параўнанні з папярэднім годам. «Пазіцыя Беларусі ў Сусветным індэксе свабоды прэсы 2019 года, здавалася б, сведчыць аб паляпшэнні становішча, – заўважылі «Рэпарцёры без межаў», – але насамрэч яна адлюстроўвае той факт, што становішча значна пагоршылася ў шматлікіх іншых краінах, а таксама той факт, што рэкордная колькасць арыштаў у Беларусі ў 2017 годзе не была паўтораная ў 2018 годзе».

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Freedom House ў сваім Рэйтынгу свабоды ў свеце 2019 года, як і раней, аднесла Рэспубліку Беларусь да ліку несвабодных краінаў. Пры гэтым, на думку арганізацыі, ступень свабоды СМІ ў Беларусі ў 2018 годзе паменшылася да мінімальнай.

«Ацэнка паменшылася з 1 да 0 з-за прымянення суворых захадаў у адносінах да журналістаў, якія ўключалі ў сябе новыя абмежаванні, датычныя сеткавых сродкаў масавай інфармацыі, крымінальны пераслед журналістаў, якіх абвінавачвалі ў незаконным атрыманні кантэнту ад дзяржаўнай інфармацыйнай агенцыі, а таксама частае затрыманне і накладанне штрафаў на журналістаў у сувязі з іх працай».

Камітэт абароны журналістаў (CPJ) уключыў Беларусь у спіс краінаў з найбольш жорсткай цэнзурай (9-е месца).

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Крымінальныя справы

**4 сакавіка** суд Заводскага раёна Мінска прызнаў галоўную рэдактарку вядучага беларускага інтэрнэт-партала TUT.BY **Марыну Золатаву** віноўнай у бяздзейнасці службовай асобы (арт. 425 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь) і прысудзіў яе да штрафу ў памеры 7650 беларускіх рублёў (каля 3800 долараў ЗША ў эквіваленце). Акрамя гэтага, суд спагнаў з яе на карысць дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА працэсуальныя выдаткі ў памеры 6000 рублёў.

Асуджэнне Золатавай сталася завяршэннем так званае "справы БелТА", якая была заведзеная ўлетку 2018 г. Прычынай для гэтага было несанкцыянаванае выкарыстанне некаторымі журналістамі пароляў да падпіснай стужкі сайту БелТА (пры гэтым матэрыялы сайту БелТА знаходзіліся ў адкрытым бясплатным доступе і размяшчаліся ў СМІ, якія патрапілі пад пераслед, з улікам правілаў, усталяваных БелТА, а паролі да падпіснай стужкі не мяняліся на працягу некалькіх год). У дачыненні да 15 журналістаў розных СМІ былі ўзбуджаныя крымінальныя справы паводле ч. 2 арт. 349 Крымінальнага кодэкса ("Несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі, здзейснены з карыслівай ці якой іншай асабістай зацікаўленасці"). Напрыканцы 2018 г. крымінальныя справы ў дачыненні да 14 журналістаў былі спыненыя з прыцягненнем іх да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе буйных штрафаў і выплаты кампенсацыяў. Адзінай журналісткай, прыцягнутай да крымінальнай адказнасці, стала Марына Золатава.

**7 сакавіка** стала вядома пра ўзбуджэнне крымінальнай справы ў адпаведнасці з ч. 1 арт. 211 Крымінальнага кодэкса ў адносінах да блогера з Бярозы **Аляксандра Кабанава**. Яго абвінавацілі ў прысвойванні грошаў у час, калі ён быў старшынёй таварыства ўласнікаў (у 2017 годзе). Справа была ўзбуджаная па скарзе супрацоўніка міліцыі, сябры гэтага таварыства.

8 ліпеня крымінальная справа была спыненая ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства.

1 кастрычніка вытворчасць па справе была адноўленая пастановай Брэсцкай абласной пракуратуры.

10 снежня Аляксандр Кабанаў даведаўся, што ягоная справа спыненая з фармулёўкай "за адсутнасцю складу злачынства".

**10 сакавіка** блогера **Паўла Спірына** дапыталі ў міліцыі ў якасці сведкі ў межах расследавання справы, узбуджанай на падставе артыкула 189 Крымінальнага кодэкса («Абраза») ў сувязі з «абразлівым» каментаром пад ягоным відэа. Павел Спірын размясціў на сваім YouTube-канале відэа з паседжання «дармаедскай» камісіі адміністрацыі Ленінскага раёну Мінска; яно набрала шмат праглядаў і каментароў. Пад ролікам з'явіўся каментар: ‚Усё правільна! Нам, работнікам выканкаму, гэта таксама агідна, і мы таксама сабатуем гэта як умеем", — да якога быў далучаны фотаздымак намесніка кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска Сяргея Павачкі. Павачка напісаў ў РУУС Ленінскага раёну Мінска заяву, дзе сцвярджаў, што гэты камэнтар яго абражае і патрабаваў прыцягнуць Спірына да крымінальнай адказнасці. Тады ж міліцыя правяла з санкцыі пракуратуры вобшук у кватэры блогера, у выніку якога быў канфіскаваны цвёрды дыск камп'ютара.

**20 сакавіка** Следчы камітэт Беларусі ў афіцыйным тэлеграм-канале паведаміў пра ўзбуджэнне крымінальнай справы паводле ч. 1 арт. 340 Крымінальнага кодэкса з прычыны заведама ілжывага паведамлення пра мініраванне райвыканкаму ў гарадскім пасёлку Акцябрскі. Падазраваным па гэтай справе быў названы блогер **Андрэй Павук**, нумар мабільнага тэлефона якога фігураваў у

паведамленні пра мініраванне. Тады ж Павук быў затрыманы, у яго дома быў праведзены вобшук з выняццем кампутара і іншай прафесійнай тэхнікі. Пасля допыту ён быў вызвалены.

17 красавіка крымінальная справа ў дачыненні да Павука была спыненая, і 6 чэрвеня сканфіскаваную тэхніку вярнулі.

У траўні 2019 года гісторыя зілжэмініраваннем паўтарылася. На электронную пошту Міністэрства па надзвычайных сітуацыях прыйшло паведамленне пра мініраванне суда ў горадзе Мазыр. Падазраваным ізноў стаў А. Павук. Як і ў сакавіку, прычынай гэтага сталася ўказанне нумару яго мабільнага тэлефона ў паведамленні пра мініраванне.

9 красавіка ўпраўленне Следчага камітэта па г. Мінску правяло вобшук у памяшканні, якое выкарыстоўвалі для сваёй дзейнасці супрацоўнікі спадарожнікавага тэлеканала "Белсат". Як паведамлялася Следчым камітэтатам, вобшук праводзіўся ў межах крымінальнай справы, заведзенай па факце распаўсюду паклёпу на сайце тэлеканала (ч. 2 арт. 188 Крымінальнага кодэкса).

Кіраўніцтва "Белсата" патлумачыла, што прычынай для ўзбуджэння справы сталася тэхнічная памылка, зробленая ў 2018 годзе ў артыкуле пра карупцыю, у якім быў памылкова згаданы старшыня Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Андрэй Швед. *«Памылку мы хутка выправілі, апублікавалі абвяржэнне, прынеслі выбачэнні генералу Андрэю Шведу, якога гэтая памылка тычылася. Следчы камітэт правёў праверку па гэтай справе і падставаў для крымінальнага пераследу не знайшоў. Аднак у студзені гэтага года мінская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу з гэтай жа нагоды»*, – адзначыла кіраўніцтва «Белсата».

У выніку вобшуку, які працягваўся каля чатырох гадзін, былі вынятыя каля 10 носьбітаў інфармацыі, у тым ліку тры ноўтбукі і два цвёрдыя дыскі. Праз два дні, 11 красавіка, Следчы камітэт вярнуў супрацоўнікам «Белсата» забранае абсталяванне.

18 красавіка суд Ленінскага раёна г. Брэста прызнаў вінаватым брэсцкага блогера Сяргея Пятрухіна паводле ч. 2 арт. 188 («Паклёп») і ч. 2 арт. 189 («Абраза») Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. У якасці пацярпелых па справе праходзілі чатыры супрацоўнікі Ленінскага РУУС г. Брэста. У выніку разгляду справы Пятрухін быў прысуджаны да штрафу ў памеры 9180 рублёў (каля 4600 долараў ЗША). Таксама суд забавязаў яго выплаціць у якасці кампенсацыі маральнай шкоды супрацоўнікам міліцыі Сяргею Ігнацюку, Дзмітрыю Якушэвічу, Ігару Галянцічу і Сяргею Токуну ў агульнай суме 7500 рублёў (3750 долараў ЗША), а таксама кампенсаваць выдаткі пацярпелых на адвакатаў у памеры 1000 беларускіх рублёў і судовыя выдаткі.

Падставай для прыцягнення блогера да крымінальнай адказнасці сталіся відэаролікі, якія былі знятыя ў сакавіку 2018 года і размешчаныя на YouTube. У гэтых відэароліках Пятрухін заявіў пра дачыненне шэрагу супрацоўнікаў Ленінскага РУУС Брэста да збіцця ў міліцэйскім участку ў 2016 годзе грамадзяніна П. Камінскага, які звяртаўся ў праваахоўныя органы з патрабаваннем расследавання гэтага інцыдэнту і распавёў пра гэта блогеру.

5 ліпеня судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда пакінула рашэнне суда першай інстанцыі без зменаў.

21 лістапада Уладзімір Чудзянцоў, рэдактар незалежнага інтэрнэт-агенцтва навінаў by24.org, быў затрыманы беларускімі мытнікамі за захоўванне наркотыкаў, калі збіраўся перасекчы польскую мяжу цягніком. Паводле інфармацыі супрацоўнікаў мытні, яны знайшлі 0,87 грама марыхуаны ў вопратцы Чудзянцова. Міліцыянты, якія правяліператрус у яго кватэры ў той жа дзень, заявілі, што наркотыкі былі знойдзеныя і там. Чудзянцоў быў на два месяцы змешчаны ў брэсцкі СІЗА; пазней тэрмін быў падоўжаны.

Напярэдадні гэтых падзеяў Чудзянцоў, у супрацы з блогерам Сцяпанам Святловым, вядомым пад нікам NEXTA, прыняў удзел у стварэнні дакументальнага фільма з крытыкай Лукашэнкі; фільм сабраў больш за 1,8 мільёна праглядаў на YouTube. Пасля затрымання Чудзянцова NEXTA размясціў на YouTube відэа ў яго падтрымку.

29 лістапада міжнародная арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" (RSF) апублікавала сваю пазіцыю адносна затрымання журналіста. *"Абставіны затрымання Уладзіміра Чудзянцова выклікаюць пытанне, чаму быў праведзены агляд, у той час калі беларускія мытнікі рэдка правяраюць пасажыраў на выездзе з краіны*, – заявіў прадстаўнік Бюро па Усходняй Еўропе і Цэнтральнай Азіі "Рэпарцёраў без межаў. – *Акрамя таго, дзіўна, што журналіст, вядомы сваёй разважлівасцю, будзе правозіць наркотыкі, асабліва ўлічваючы суворае антынаркатычнае заканадаўства Беларусі. Калі гэтая справа была сфабрыкаваная, прымяненне такіх метадаў у дачыненні да журналіста будзе азначаць трывожную эскалацыю падаўлення свабоды распаўсюду інфармацыі ў Беларусі".*

30 лістапада Уладзіміру Чудзянцову былі прад'яўленыя абвінавачванні па частцы 1 артыкула 328 Крымінальнага кодэкса ("Незаконныя без мэты збыту выраб, перапрацоўка, набыццё, захоўванне, перавозка або перасылка наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў або іх прэкурсораў або аналагаў"), а таксама па частцы 1 артыкула 328-1 ("Незаконнае перамяшчэнне праз мытную мяжу Эўразійскага эканамічнага саюза або дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў або іх прэкурсораў або аналагаў").

## Іншыя судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)

**14 лютага** Суд Цэнтральнага раёна Мінска адмовіў у задавальненні пазову лідараў прафсаюза РЭП Ігара Комліка і Генадзя Фядыніча аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі да сайта **belnovosti.by**. Справа тычылася артыкула "Фіктыўны РЭП Фядыніча", які быў апублікаваны ў траўні 2018 года. У артыкуле сцвярджалася, што пад прыкрыццём дзейнасці прафсаюза лідары арганізацыі атрымліваюць грошы для фінансавання свайго жыцця.

**17 мая** Суд Маскоўскага раёна Мінска ў закрытым рэжыме разгледзеў грамадзянскую справу супраць навінавага сайта **TUT.BY** і яго журналістаў. Вячаслаў Давыдовіч, які не так даўно вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі, звярнуўся з пазовам аб абароне гонару і годнасці. У пазоўнай заяве ён прасіў абвергнуць і выдаліць некаторыя выразы з публікацый TUT.BY, "якія ганяць гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю". У якасці маральнай кампенсацыі ён прасіў спагнаць на яго карысць 50 тысяч рублёў. Суд адмовіў у задавальненні гэтых патрабаванняў.

**11 ліпеня** Суд Ленінскага раёна Магілёва па скарзе журналіста **Уладзіміра Лапцэвіча** ў чарговы раз адмяніў пастанову Следчага камітэта аб спыненні праверкі ў дачыненні да чыноўніка і супрацоўніка міліцыі. Суддзя Алена Літвіна адмяніла пастанову Следчага камітэта аб спыненні праверкі ў дачыненні супрацоўніка Ленінскага РАУС Сяргея Калеснікава і работніка адміністрацыі Ленінскага раёна Магілёва Канстанціна Кісцянёва. 21 чэрвеня 2019 года старшы следчы ўпраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці Ігар Рыбакоў у чарговы раз адмовіўся распачынаць крымінальную справу і спыніў праверку.

*Нагадаем, што 29 красавіка 2017 года гэтыя службовыя асобы перашкодзілі журналісту выконваць прафесійныя абавязкі, забараніўшы прысутнічаць на сходзе чальцоў гаражнага кааператыва "Спутник-2008". Больш як два гады журналіст спрабаваў прыцягнуць чыноўніка і міліцыянта да крымінальнай адказнасці за перавышэнне службовых паўнамоцтваў і злоўжыванне ўладай. Кожны раз пасля таго як следчыя адмаўляліся распачынаць крымінальную справу, Лапцэвіч абскарджваў*

*адмовы ў судзе. Няякасная дадатковая праверка неаднаразова станавілася прычынай прыцягнення да дысцыплінарнай адказнасці супрацоўнікаў Следчага камітэта.*

16 жніўня Эканамічны суд Мінска прызнаў дзейсным рашэнне Рэспубліканскай экспертнай камісіі, якая прыйшла да высновы, што два артыкулы выдання «Вечерний Могилев» утрымліваюць прыкметы экстрэмізму, бо ў іх ужываецца мова варожасьці супраць ЛГБТ-супольнасьці. «Вечерний Могилев» намагаўся аспрэчыць экспэртнае заключэнне. *Гэтае рашэнне стала падставай для судовага разбіральніцтва, па выніках якога 18 снежня судом Ленінскага раёна было вынесенае рашэнне (гл. ніжэй).*

5 верасня Эканамічны суд Брэсцкай вобласці адмовіў прыватнаму вытворча-гандлёваму ўнітарнаму прадпрыемству "Медыя-Ганцавічы", выдаўцу рэгіянальнай газеты "Ганцавіцкі час", у прызнанні незаконным рашэння Ганцавіцкага раённага Савета дэпутатаў, які адмовіўся акрэдытаваць журналістаў гэтага незалежнага выдання. Аднак суддзя Алена Дзем'янюк, якая разглядала справу, вынесла асобную пастанову аб парушэнні закона аб СМІ, згодна з якой Ганцавіцкі райсавет абавязаны распрацаваць палажэнне аб акрэдытацыі.

17 кастрычніка апеляцыйная інстанцыя Эканамічнага суда Брэсцкай вобласці адхіліла скаргу "Медыя-Ганцавічы" на рашэнне суда ад 5 верасня.

3 кастрычніка быў адхілены пазоў аб абароне гонару і дзелавой рэпутацыі супраць брэсцкіх блогераў Сяргея Пятрухіна і Аляксандра Кабанава, ініцыяваны кіраўніцтвам кампаніі "АйПаўэр" у Эканамічным судзе Брэсцкай вобласці. Прычынай для пазову стала тое, што блогеры размясцілі на сваём YouTube-канале "Народны рэпарцёр" інтэрв'ю двух экалагічных актывістаў, якія распавялі пра забруджванне тэрыторыі ў выніку дзейнасці "АйПаўэр" і пра іншыя парушэнні з боку гэтай кампаніі.

*Варта нагадаць, што ў 2018 годзе прадпрыемства "АйПаўэр" ужо падавала пазоў аб абароне сваёй дзелавой рэпутацыі супраць Кабанава і Пятрухіна. Тады суддзя абавязаў блогераў выдаліць з YouTube-канала "Народны рэпарцёр" сюжэт пра будаўніцтва акумулятарнага завода, запісаць прабачэнні і выкласці іх на гэтым канале.*

26 верасня стала вядома, што старшыня Слонімскага райвыканкама Генадзь Хоміч падаў у суд на Сцяпана Пуцілу, які вядзе папулярны Тэлеграм-канал NEXTA.

У жніўні 2019 года Пуціла апублікаваў паведамленне, у якім сцвярджаў, што Хоміча затрымлівалі п'яным за рулём, але той "замяў" справу. Быў там таксама намёк на карупцыйную дзейнасць мэра.

Генадзь Хоміч спачатку патрабаваў спагнаць з Пуцілы 50 тысяч рублёў (каля 24 тысяч долараў ЗША) у якасці маральнай кампенсацыі. Такія самыя пазовы былі пададзеныя супраць навінавых сайтаў "Беларускі партызан", 21.by і bobruisk.ru, якія перадрукавалі гэтае паведамленне. Потым сума патрабаванняў была зменшаная да 10 тысяч рублёў.

Сайт 21.by заключыў з Хомічам міравое пагадненне, ухваленае судом Маскоўскага раёна г. Мінска, згодна з якім ён пагадзіўся выплаціць кампенсацыю ў 1500 беларускіх рублёў (каля 730 долараў) і апублікаваць абвяржэнне.

12 лістапада суд Мінскага раёна вынес рашэнне, што Сцяпан Пуціла павінен заплаціць Хомічу 3000 беларускіх рублёў (прыблізна 1460 долараў) кампенсацыі маральнай шкоды і апублікаваць на сваім Тэлеграм-канале рашэнне суда.

13 лістапада суд Бабруйскага раёна пастанавіў, што інтэрнэт-газета "Вечерний Бобруйск" (bobruisk.ru) павінна заплаціць 2000 беларускіх рублёў (каля 970 долараў), каб кампенсаваць Хомічу маральную шкоду, а таксама апублікаваць абвяржэнне.

18 лістапада суд Савецкага раёна Мінска вырашыў спагнаць з Святланы Калінкінай, уласніцы сайта "Беларускі партызан", 3 тысячы беларускіх рублёў кампэнсацыі маральнай шкоды, а таксама 1653 рублі судовых выдаткаў.

11 кастрычніка Суд Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці пастанавіў адмовіць відэаблогеру, сябру ГА "БАЖ" Андрэю Павуку ў задавальненні пазову да мясцовага райаддзела міліцыі аб спагнанні маральнай шкоды ў памеры 25 тысяч рублёў у сувязі з незаконным затрыманнем 20 сакавіка (*глядзі падрабязней у раздзеле "Затрыманні"*). У сваім пазове ў суд Павук указаў, што дзеянні міліцыі прынеслі і працягваюць прыносіць яму значную маральную шкоду, прынізілі яго чалавечую і грамадзянскую годнасць.

26 лістапада Калегія па грамадзянскіх справах Гомельскага абласнога суда пад старшынствам Сяргея Шыцікава адхіліла апеляцыйную скаргу Павука на рашэнне суда Акцябрскага раёна.

18 кастрычніка Суд Рагачоўскага раёна не задаволіў пазоў гомельскага праваабаронцы, сябра ГА "БАЖ" Леаніда Судаленкі да рэдактара сайта "Рогачёв-Online" Дзяніса Дашкевіча аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі.

20 жніўня на сайце "Рогачёв-Online", а таксама ў Facebook, на старонках "ВКонтакте" і "Одноклассники" Дашкевіч перадрукаваў з іншага малавядомага рэсурса публікацыю пад назвай "Новы скандал у апазіцыі: не могуць падзяліць грошы". У ім, сярод іншага, сцвярджалася, што Судаленка скраў сяброўскія ўнёскі прафсаюза. У судзе якіх-небудзь дакументальных пацвярджэнняў распаўсюджанай інфармацыі Дзяніс Дашкевіч не прывёў. Ён распавядаў толькі, што раней сам працаваў у апазіцыі і ведае, што прафсаюзныя складкі нямэтава выкарыстоўваліся на розныя палітычныя кампаніі.

12 снежня калегія па грамадзянскіх справах Гомельскага абласнога суда пад старшынствам Жаны Ягоравай не задаволіла апеляцыйную скаргу Судаленкі на рашэнне Рагачоўскага раённага суда.

18 снежня суд Ленінскага раёна Магілёва прыйшоў да высновы, што публікацыі газеты "Вечерний Могилёв", у якіх Міністэрства інфармацыі выявіла гамафобныя выказванні, не з'яўляюцца экстрэмісцкімі. Сваё рашэнне суддзя Аляксандр Бушлякоў вынес, грунтуючыся на заключэнні экспертызы, якую правялі эксперты Упраўлення Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці. Згодна з гэтым заключэннем, "*у матэрыялах, размешчаных на Інтэрнэт-рэсурсе vecherniy-mogilev.by "Судный день. Лиричных чувств натянутые струны…" і "Во что выливается нетерпимость к извращенцам?" выказванняў пабуджальнага характару, якія заклікаюць да гвалтоўных дзеянняў (дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды) гетэрасексуалаў ў дачыненні да чалавека альбо групы асоб, аб'яднанай па прыкмеце прыналежнасці да гомасексуалаў ці падтрымліваючых падобныя дзеянні, не маецца*".

24 снежня адбыўся разгляд пазову заснавальніка рытуальнай кампаніі Яўгена Казлова супраць онлайн-газеты "Наша Ніва". Суд вырашыў, што хоць у артыкуле і згадвалася недакладная інфармацыя, яна не мела дачынення да гонару і годнасці.

У чэрвені 2019 года ў паштовых скрынках мінчукоў сталі з'яўляцца буклеты з прапановай дапамогі ў арганізацыі пахавання. Прычым рытуальная кампанія, якая прапаноўвала свае паслугі, імкнулася мімікрываваць пад дзяржаўную арганізацыю. "Еўрарадыё" напісала пра гэта артыкул, а "Наша Ніва" размясціла яго на сайце: "«Пахавальная» ў паштовай скрыні: новы гулец з Расіі захоплівае рытуальны рынак Мінска". Праз некаторы час Казлоў падаў у суд на журналістку Марыю Вайтовіч, а таксама рэдакцыі "Еўрарадыё" і "Нашай Нівы". Ён меркаваў, што журналістка зняславіла яго гонар і дзелавую рэпутацыю. З "Еўрарадыё" пазоўнік дамовіўся ў дасудовым парадку, таму суд Маскоўскага раёна Мінска разглядаў пазоў толькі супраць "Нашай Нівы".

# Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед

**3 студзеня** карэспандэнт "Радыё Рацыя" **Генадзь Барбарыч** быў аштрафаваны на 892,5 беларускіх рублёў у судзе Партызанскага раёну Мінска. Ён быў прызнаны вінаватым па артыкуле 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Журналіст быў пакараны за рэпартаж пра абвінавачванні супраць сваіх калегаў у так званай "справе БелТА" – інтэрв'ю з галоўнай рэдактаркай БелаПАН Ірынай Леўшынай.

3 лютага пастанова аб штрафе Бабарыча была пакінутая ў сіле. Ягоную скаргу разгледзеў Мінскі гарадскі суд.

**3 студзеня** журналістаў-фрылансераў **Сяргея Краўчука і Галіну Абакунчык** аштрафавалі ў Мінску на 892,5 рубля кожнага за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

**4 студзеня** у Мінску каля Міністэрства ўнутраных спраў разам з палітычнай актывісткай Нінай Багінскай, якая пікетавала з плакатам у падтрымку палітвязняў ля мінскай статуі гарадавога, і двума іншымі асобамі быў затрыманы карэспандэнт "Радыё Рацыя" **Максім Клімковіч**. Затрыманыя былі дастаўленыя ў Цэнтральны РУУС Мінска. Журналіст быў вызвалены пасля таго, як правёў там каля чатырох гадзін.

**9 студзеня** брэсцкія журналісты **Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава** атрымалі чарговы штраф за супрацоўніцтва з "Белсатам". Гэтым разам рашэнне пакараць журналістаў-фрылансераў вынес суддзя Ленінскага раёна Брэста Дзмітрый Шурын, прычым самі журналісты ў працэсе не ўдзельнічалі. Суддзя пакараў кожнага з журналістаў штрафам у памеры 1275 рублёў. Падставай для судовага разбіральніцтва стаў артыкул пра чарговую сустрэчу на галоўнай плошчы Брэста працїўнікаў будаўніцтва акумулятарнага завода, змешачаны 18 лістапада 2018 года на сайце тэлеканала "Белсат". У выніку на Алеся Ляўчука і Мілану Харытонаву, якія асвятлялі акцыю на плошчы, быў складзены адміністрацыйны пратакол на падставе часткі 2 артыкула 22.9 Кодэкса РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях (за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ).

**15 студзеня** ў гарадкім пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці міліцыя затрымала блогера, сябра ГА "БАЖ" **Андрэя Павука** (заснавальніка папулярнай у сацыяльных сетках суполкі "Рудабельская паказуха") у час, калі ён вёў жывы эфір з вестыбюля мясцовага райвыканкама на сваім YouTube-канале. Блогер разам з мясцовай жахаркай чакалі старшыню Гомельскага аблвыканкама Уладзіміра Дворніка, які прыехаў у Акцябрскі па службовых справах. У іх былі асабістыя пытанні, якія не вырашылі мясцовыя чыноўнікі, і патрабавалася ўмяшальніцтва абласнога кіраўніка. Лейтэнант міліцыі, які не назваў свайго прозвішча, а толькі паказваў на свой нагрудны знак з нумарам №71432, загадаў блогеру спыніць здымкі і прад'явіць пашпарт, каб пацвердзіць асобу. Ніякіх іншых дакументаў міліцыянт не прызнаваў. Ён спасылаўся на тое, што ўнутранай інструкцыяй райвыканкама забароненыя відэаздымкі, і распарадзіўся, каб дзяжурны міліцыянт выклікаў нарад міліцыі. Прыехалі трое міліцыянтаў Светлагорскага аддзела дэпартамента аховы МУС (старшы з іх Сяргей Дацко), узялі А. Павука пад рукі, прыгнулі галаву і вывелі з будынка райвыканкама. Блогера даставілі ў Акцябрскі РАУС, як было заяўлена, з прычыны непадпарадкавання законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі і для высвятлення асобы. Там яго пратрымалі гадзіну і адпусцілі без складання пратакола, калі Ўладзімір Дворнік ужо з'ехаў.

25 студзеня начальнік Гомельскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента аховы МУС Аляксандр Лісімаў адказаў на скаргу Андрэя Павука з прычыны затрымання яго ў вестыбюлі Акцябрскага райвыканкама. Ён паведаміў, што згодна з інструкцыяй, *"у будынку райвыканкама забаронена: ажыццяўляць фота-, відэаздымкі, ажыццяўляць аўдыёзапіс з дапамогай фота-, відэа-,*

*аўдыёапаратуры, мабільных тэлефонаў без узгаднення са старшынёй райвыканкама альбо яго намеснікам, кіраўніком спраў"*і, такім чынам, міліцыя дзейнічала правамерна.

18 студзеня журналістку-фрылансера Галіну Абакунчык аштрафавалі ў судзе Ленінскага раёна Мінска на 765 рублёў за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

21 студзеня супрацоўнікі "Белсата" Вольга Чайчыц і Сяргей Краўчук былі затрыманыя на вуліцы і прымусова дастаўленыя ў Бараўлянскае аддзяленне міліцыі. Яны выконвалі свае прафесійныя абавязкі, прысутнічаючы на прэс-канферэнцыі актывістаў, якія ўсталявалі крыж у памяць пра літоўскіх ахвяраў сталінскіх рэпрэсій у Курапатах пад Мінскам. Раней работнікі лясной гаспадаркі дэмантавалі крыж. Міліцыянты не паведамілі якіх-небудзь прычын для затрымання здымачнай групы. Для таго, каб не даць магчымасці міліцыі выдаліць відэа, Чайчыц вяла трансляцыю на Facebook. Яна расказала, што міліцыя ад самага пачатку пільнавала іх у Курапатах, таму актывісты праводзілі іх да аўто. Пасля за імі паехаў аўтамабіль ДАІ, каб затрымаць. Журналісты былі вызваленыя пасля таго, як былі складзены адміністрацыйныя пратаколы за працу без акрэдытацыі.

24 студзеня Віцебскі абласны суд не задаволіў скаргу журналіста-фрылансера Змітра Лупача. Журналіст спрабаваў аспрэчыць пастанову Глыбоцкага раённага суда ад 22 снежня 2018 года. Тады яго аштрафавалі на падставе артыкула 22.9 КаАП у дзявяты раз за год. Падставай для справы стаў сюжэт на тэлеканале "Белсат" пра ўшанаванне памяці ахвяр камуністычнага і фашысцкага рэжымаў на Глыбоччыне.

28 студзеня журналіста-фрылансера Змітра Міцкевіча аштрафавалі ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска на 765 рублёў за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

30 студзеня журналістаў-фрылансераў Мілану Харытонаву і Алеся Ляўчука аштрафавалі ў Брэсце на 1275 рублёў кожнага за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

1 лютага журналісты Алесь Кіркевіч і Алесь Дзянісаў атрымалі штрафы па 765 рублёў кожны ў судзе Ленінскага раёна Гродна. Нагодай стаў сюжэт "Гісторыкі даследуюць старажытныя гарадзенскія падвалы", які выйшаў на "Белсаце". Абодва журналісты былі пакараныя згодна з артыкулам 22.9 КоАП (незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ).

5 лютага Мінскі гарадскі суд пакінуў у сіле рашэнне пакараць штрафам журналістку "Новага Часу" Дзіяну Серадзюк за нібыта ўдзел у несанкцыянаванай акцыі пратэсту каля расійскай амбасады 26 лістапада 2018 года, якую яна асвятляла. Нягледзячы на далучаныя да справы копіі яе рэдакцыйнага задання, пасведчання журналісткі і артыкула для "Новага Часу", суд прызнаў яе вінаватай у парушэнні артыкула 23.34 КаАП і пакараў штрафам у памеры 490 рублёў.

10 лютага журналістку-фрылансера Вольгу Чайчыц аштрафавалі ў Салігорску на 510 рублёў за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

11 лютага суд Бярозаўскага раёна аштрафаваў блогера Аляксандра Кабанава на 510 беларускіх рублёў за невыкананне судовага рашэння ад 14 верасня 2018 года. Такую пастанову прыняла суддзя Алена Нямкова. У верасні суддзя эканамічнага суда Брэсцкай вобласці Канстанцін Нікіцін абавязаў блогераў Аляксандра Кабанава і Сяргея Пятрухіна абвергнуць свае выказванні, што прагучалі ў відэаролiку "Свинец – Бресту писец", а таксама выдаліць сам ролік з YouTube. Згодна з рашэннем суда, яго змест шкодзіў дзелавой рэпутацыяй завода акумулятараў, які будаваўся пад Брэстам.

17 лютага раніцай на чыгуначным вакзале ў горадзе Бяроза Брэсцкай вобласці быў затрыманы блогер Аляксандр Кабанаў, які збіраўся ехаць у Брэст, каб асвятляць штотыднёвую акцыю пратэсту супраць будаўніцтва акумулятарнага завода паблізу горада. Пасля доўгага допыту ў якасці сведкі аб такім жа пратэсце, які адбыўся 10 лютага 2019 года, яго адпусцілі з міліцыі.

18 лютага суддзя Маскоўскага раёна Брэста Раіса Лабачэўская спыніла адміністрацыйную справу ў дачыненні да брэсцкага журналіста-фрылансера Яўгена Скрабца ў сувязі са "сканчэннем тэрмінаў накладання адміністрацыйнага спагнання". Справа была распачатая ў снежні 2018 года на падставе публікацыі "Выстава "Вечнасць і момант. 1918–1939 – Польшча моцная архітэктурай". Паводле пратакола, Скрабец парушыў артыкул 22.9 КаАП, бо "*злоўжываў правамі і абавязкамі журналіста, вырабіў прадукцыю сродку масавай інфармацыі ў выглядзе інфармацыйнага тэкставага паведамлення на сайце "Радыё Рацыя".*

21 лютага фрылансера Змітра Лупача судзілі ў Глыбоцкім раённым судзе за сюжэт аб помніку ў гонар камсамола, усталяваным у Глыбокім, паказаны ў эфіры тэлеканала "Белсат". Суддзя прысудзіў Лупача да штрафа ў памеры 892,5 беларускіх рублёў.

24 лютага ў Брэсце быў затрыманы блогер Аляксандар Кабанаў. Кабанава затрымалі на выхадзе з кватэры яго калегі блогера Сяргея Пятрухіна, каля якой ад раніцы дзяжурыў АМАП. Гэта адбылося перад пачаткам акцыі пратэсту праціўнікаў будаўніцтва акумулятарнага заводу, якія праходзілі штонядзелю на працягу года. Кабанава выпусьцілі з РАУС Маскоўскага раёну неўзабаве па завяршэнні мітынгу. Яму паведамілі, што яго затрымалі праз заяву аб абразе кагосьці, але ён адмовіўся ад азнаямленьня з заявай без адваката.

3 сакавіка ў Брэсце міліцыя на некалькі гадзін затрымлівала журналістаў Алеся Ляўчука і Мілану Харытонаву. Адбылося гэта, калі яны накіроўваліся да прыпынку грамадскага транспарту, каб паехаць на плошчу Леніна, дзе па нядзелях збіраліся праціўнікі будаўніцтва акумулятарнага завода пад Брэстам. Да журналістаў падыйшлі супрацоўнікі міліцыі і прапанавалі праследаваць з імі ў апорны пункт аховы правапарадку. Калі Алесь Ляўчук паспрабаваў запярэчыць гэтай прапанове, міліцыянты ўжылі фізічную сілу і нават спрабавалі выкарыстаць наручнікі. У выніку на Алеся Ляўчука і Мілану Харытонаву ў міліцэйскім пастарунку склалі адміністрацыйныя пратаколы паводле артыкула 22.9 КаАП (за працу на замежны СМІ без акрэдытацыі, маючы на ўвазе тэлеканал "Белсат"). Адпусцілі іх прыкладна праз дзве гадзіны пасля затрымання.

4 сакавіка суддзя суда Маскоўскага раёну Брэста Раман Карабан прызначыў брэсцкім журналістам-фрылансерам Алесю Ляўчуку і Мілане Харытонавай вялікія штрафы: 120 базавых велічынь на дваіх альбо 3060 рублёў. Журналістаў судзілі паводле трох пратаколаў, па кожнаму з якіх суддзя прысудзіў 40 базавых велічынь штрафу. Ляўчука і Харытонаву абвінавацілі ў працы на "Белсат" без акрэдытацыі. Два пратаколы на журналістаў былі складзеныя за асвятленне пратэстаў супраць будаўніцтва акумулятарнага заводу, трэці – за асвятленне праблем жыхароў берасцейскай вуліцы Паплаўскага.

6 сакавіка стала вядома, што супрацоўнік Ленінскага РАУС Магілёва маёр міліцыі Яўген Слаўнікаў, які спрабаваў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці журналістку Аліну Скрабунову, папярэджаны аб недапушчэнні парушэння нормаў Працэсуальна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. У дзеяннях міліцыянта выявіліся "нязначныя парушэнні парадку вядзення адміністрацыйнага працэсу", аднак фактаў парушэння правоў Скрабуновай ўстаноўлена не было, гаворыцца ў адказе, які паступіў журналістцы з УУС Магілёўскага аблвыканкама.

*У лістападзе 2018 года Слаўнікаў склаў на Аліну Скрабунову і аператара Міхаіла Аршынскага пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні за "незаконнае стварэнне прадукцыі СМІ". Паколькі КаАП не прадугледжвае адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у незаконным стварэнні прадукцыі*

*СМІ, суд Ленінскага раёна двойчы вяртаў ў міліцыю пратаколы для ліквідацыі выяўленых недахопаў. У рэшце рэшт двухмесячны тэрмін прыцягнення журналістаў да адміністрацыйнай адказнасці мінуў.*

7 сакавіка журналістку-фрылансера Галіну Абакунчык аштрафавалі ў Слоніме на 892,5 рубля за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

12 сакавіка журналіста-фрылансера Алеся Залеўскага аштрафавалі ў Мінску на 1275 рублёў за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

14 сакавіка віцебскага актывіста і распаўсюдніка незалежнай прэсы Барыса Хамайду затрымалі і адвезлі ў Чыгуначны райаддзел міліцыі. Гэта адбылося пасля таго як міліцыянты запатрабавалі, каб Хамайда сабраў свой столік і бел-чырвона-белы парасон ды пайшоў. Калі Хамайда адмовіўся, яму было заяўлена, што ён парушае заканадаўства аб масавых мерапрыемствах і таму яго затрымліваюць. Пасля 2-х гадзін утрымання ў аддзяленні міліцыі ў адносінах да Хамайды склалі пратакол паводле арт. 21.14 КаАП, у якім гаварылася, што сваёй маёмасцю ён загрувашчвае вуліцу.

14 сакавіка суд Віцебскага раёну прызнаў Віталя Скрыля вінаватым у незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ паводле арт. 22.9 КаАП. Яго пакаралі штрафам у памеры 637,5 беларускіх рублёў за відэасюжэт пра закрыццё прадпрыемства ў горадзе Сянно Віцебскай вобласці, паказаны на тэлеканале "Белсат".

8 мая стала вядома, што гэтую пастанову суда першай інстанцыі абласны суд пакінуў без зменаў.

7 сакавіка журналістку-фрылансера Галіну Абакунчык аштрафавалі ў Слоніме на 892,5 рубля за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

15 сакавіка ў Дзяржынску аштрафавалі журналістку-фрылансера Вольгу Чайчыц на 510 рубля за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

16 сакавіка ў Мінску ў Прэс-клубе міліцыя затрымала расійскіх журналістаў з альманаха moloko plus Паўла Нікуліна і Яна Патарскага . Расійскія журналісты прыехалі ў Мінск, каб правесці воркшоп "Як сабраць грошы на ўласны праект і арганізаваць працу ў гарызантальнай рэдакцыі". Праз тры гадзіны пасля затрымання журналістаў вызвалілі без складання пратаколаў. Аднак міліцыя забрала іх прэзентацыйныя матэрыялы, каб праверыць на наяўнасць экстрэмісцкага зместу. Быў распачаты адміністрацыйны працэс на падставе арт. 17.11 ("Распаўсюд, выраб, захоўванне, перавозка інфармацыйнай прадукцыі, якая змяшчае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці ці прапагандуе такую дзейнасць") КаАП Беларусі, які пазней быў спынены.

20 сакавіка блогер Андрэй Павук быў затрыманы ў сябе дома ў гарадскім пасёлку Акцябрскі, тады ж там быў праведзены вобшук. Міліцыя затрымала блогера, прымусіўшы яго пакінуць пяцігадовую дачку адну ў кватэры, па сутнасці, у небяспечнай сітуацыі. У райаддзеле міліцыі блогера трымалі пяць гадзін на той падставе, што нібыта з яго электроннага адраса ў Гомельскае ўпраўленне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях паступіла паведамленне пра мініраванне Акцябрскага райвыканкама. Аднак скрыншот паведамлення ні міліцыянты, ні следчыя так і не паказалі. Пасля допыту ён быў вызвалены. Следчы камітэт Беларусі ў афіцыйным тэлеграм-канале паведаміў пра ўзбуджэнне крымінальнай справы паводле ч. 1 арт. 340 Крымінальнага кодэкса з-за заведама ілжывага паведамлення пра мініраванне.

**21 сакавіка** брэсцкія журналісты **Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава** былі прызнаныя вінаватымі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ, а менавіта – супрацоўніцтве з тэлеканалам "Белсат". Суддзя суда Маскоўскага раёна Брэста Раіса Лабачэўская пакарала кожнага з іх штрафам у 1275 рублёў паводле артыкула 22.9 КаАП РБ.

**26 сакавіка** журналістаў **Вольгу Чайчыц і Андрэя Козела** аштрафавалі ў Дзяржынску на 1020 рублёў кожнага за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

**15 сакавіка** ў Дзяржынску аштрафавалі журналістку **Вольгу Чайчыц** на 510 рублёў за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

**8 красавіка** журналістку-фрылансера **Таццяну Власенка** аштрафавалі ў Мінску на 1020 рублёў за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

**11 красавіка** суд Глыбоцкага раёна аштрафаваў незалежнага журналіста **Змітра Лупача** на 1020 беларускіх рублёў па дзвюх справах. Яго судзілі паводле артыкула 22.9 (незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ), а таксама паводле артыкула 23.34 (парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў) Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. У першым выпадку журналіста пакаралі за рэпартаж, што выйшаў на тэлеканале "Белсат", а ў другім – за ўзняцце бел-чырвона-белага сцяга падчас Дня Волі.

15 мая ў Віцебскім абласным судзе адбыўся разгляд скаргаў Змітра Лупача на пастановы раённага суда. Суддзя Святлана Іванова ніводную з іх не задаволіла.

**11 красавіка** суддзя суда Ленінскага раёна Магілёва вынес пастанову аб пакаранні журналісткі-фрылансера **Аліны Скрабуновай** штрафам у памеры 1275 рублёў. Скрабунова была прызнаная вінаватай ва "ўдзеле ў незаконным вырабе прадукцыі СМІ": яе відэарэпартаж пра адкрыццё інклюзіўнага кафэ, дзе працуюць інваліды-вазочнікі, быў паказаны на тэлеканале "Белсат".

**11 красавіка** суддзя суда Ленінскага раёна Брэста разгледзеў справу супраць журналіста-фрылансера **Яўгена Скрабца**, заведзеную паводле артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за працу для замежнай прэсы без акрэдытацыі, і аштрафаваў журналіста на 765 рублёў. Прычынай стаў артыкул Скрабца пад назвай "Актывістаў і незалежных журналістаў не пусцілі на прэс-канферэнцыю завода "АйПаўэр", які з'явіўся на сайце "Беларускага радыё Рацыя".

17 мая суддзя Брэсцкага абласнога суда Руслана Сянько пакінула пастанову раённага суда ў сіле.

**15 красавіка** справу журналіста-фрылансера **Змітра Лупача** з Глыбокага за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі разгледзеў суд Шаркаўшчынскага раёна. Суддзя прызначыў яму штраф у памеры 892,5 беларускіх рублёў за аповед пра слабую эканоміку і нізкія заробкі ў гэтым раёне.

15 мая ў Віцебскім абласным судзе адбыўся разгляд скаргі на гэтую пастанову.

Суддзя Святлана Іванова яе не задаволіла.

**15 красавіка** журналістаў **Вольгу Чайчыц і Андрэя Козела** аштрафавалі ў Лунінцы на 765 рублёў кожнага за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

18 красавіка журналісты-фрылансеры Алесь Ляўчук і Мілана Харытонава былі аштрафаваныя за супрацоўніцтва з "Белсатам" на 1275 рублёў кожны пастановай старшыні суда Брэсцскага раёна.

24 красавіка суддзя Дзмітрый Бубенчык суда Ленінскага раёна Гродна спыніў адміністрацыйную справу журналістаў-фрылансераў Алеся Дзянісава, Аляксея Кайрыса і Катажыны Ляўдацкай з-за недаказанасці віны. Іх абвінавачвалі ў незаконным вырабе прадукцыі сродку масавай інфармацыі (арт. 22.9 КаАП). Падставай для адміністрацыйнага пераследу адразу трох журналістаў стаў паказаны на тэлеканале "Белсат" відэарэпартаж з вёскі Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна – гістарычнай радзімы сусветна вядомага рок-музыкі Чэслава Немана.

24 красавіка журналістаў-фрылансераў Мілану Харытонаву і Алеся Ляўчука аштрафавалі ў Лунінцы на 1275 рублёў кожнага за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

8 мая апазіцыйны блогер з Інгушэціі Ісмаіл Нальгіеў быў затрыманы ў Нацыянальным аэрапорце Мінск, адкуль ён плянаваў вылецець у Чэхію, нібыта за нейкае адміністрацыйнае правапарушэнне. Чакалася, што 10 траўня затрыманага будуць судзіць, але замест гэтага ўлады Беларусі прынялі рашэнне аб яго высылцы ў Расію і забаранілі яму ўезд у Беларусь тэрмінам на 10 гадоў. У той самы дзень адвакат Нальгіева Антон Гашынскі абскардзіў рашэнне аб высылцы і забароне на ўезд у Беларусь у адносінах да свайго падабароннага. Адваката запэўнілі, што працэс дэпартацыі будзе прыпынены на час разгляду скаргі, як гэта прадугледжана законам, аднак праз некалькі гадзін стала вядома, што Нальгіева ўсё ж выслалі з краіны.

15 мая ў Наваполацкім гарадскім судзе адбыўся суд над незалежнымі журналістамі Аленай Шабуняй і Вячаславам Лазаравым. Суддзя прызнаў абодвух журналістаў вінаватымі ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і аштрафаваў кожнага з іх на 637,5 беларускага рубля. Нагодай для судовага разбору стала іх відэа пра здарэнне на наваполацкім прадпрыемстве "Палімір".

12 чэрвеня суддзя Віцебскага абласнога суда Святлана Іванова пакінула штрафы Алене Шабуні і Вячаславу Лазараву ў сіле.

26 мая блогер Сяргей Пятрухін быў прэвентыўна затрыманы берасцейскай міліцыяй па надуманай падставе і дастаўлены ў Ленінскі РАУС незадоўга да пачатку экалагічнай акцыі пратэсту супраць будаўніцтва і запуску завода акумулятараў I-Power. Яму давялося правесці там каля гадзіны.

31 мая суддзя суда Маскоўскага раёна Брэста аштрафаваў журналістаў Алеся Ляўчука і Мілану Харытонаву на 1020 рублёў кожнага. Іх прызналі вінаватымі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ, у прыватнасці мелася на ўвазе асвятленне імі акцый пратэсту супраць будаўніцтва і запуску завода акумулятараў I-Power.

2 чэрвеня блогер Сяргей Пятрухін быў затрыманы ў Брэсце падчас прамой трансляцыі з шэсця супраць будаўніцтва акумулятарнага завода. На скрыжаванні вуліц Савецкай і Маякоўскага дзве асобы ў камуфляжы гвалтам ўпіхнулі яго ў аўтамабіль і звезлі ў невядомым накірунку. Пры гэтым прысутнічаў выконваючы абавязкі начальніка Ленінскага РАЎС Брэста Мікалай Самасюк. У аддзяленні міліцыі супраць Пятрухіна склалі адміністрацыйны пратакол за дробнае хуліганства; да суда яго змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання. На наступны дзень у судзе Пятрухін падаў хадайніцтвы аб магчымасці азнаямлення з матэрыяламі справы і аб заключэнні дамовы з адвакатам. Суддзя Семянчук іх задаволіў і вызваліў Пятрухіна да суда, які быў перанесены на 10 чэрвеня.

12 чэрвеня Сяргея Пятрухіна аштрафавалі ў судзе Ленінскага раёна Брэста на 765 рублёў за дробнае хуліганства (артыкул 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Падставай для гэтага стала нібыта абраза намесніка начальніка Ленінскага РАУС Брэста Мікалая Самасюка. На судзе той

патлумачыў, чым менавіта яго абразіў Пятрухін. Аказалася, што блогер "у назойлівай форме" прасіў Самасюка, які ў той момант знаходзіўся пры выкананні сваіх службовых абавязкаў, прыняць заяву аб адміністрацыйным правапарушэнні. Мікалай Самасюк палічыў такія паводзіны Пятрухіна недапушчальнымі і выклікаў на яго АМАП.

3 чэрвеня суд Пухавічскага раёна прысудзіў 127,5 рублёў штрафу пісьменніку Славаміру Адамовічу за апавяданне "Ніколі не пытайся, адкуль", што было надрукавана ў недзяржаўнай газеце "Новы Час" 24 снежня 2010 года. Адамовіча прызналі вінаватым у распаўсюдзе экстрэмісцкіх матэрыялаў адпаведна арт 17.11 КаАП ("Распаўсюд, выраб, захоўванне, перавозка інфармацыйнай прадукцыі, якая змяшчае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці ці прапагандуе яе"). "Экспертная камісія" ў заключэнні № 92 ад 18 красавіка 2019 года выявіла ў апавяданні "прыкметы экстрэмізму". Экспертыза была зробленая на падставе пісьма Пухавіцкага РАУС ад 4 красавіка 2019 года. У пратаколе аб адміністрацыйным правапарушэнні было напісана, што нібыта гэтае заключэнне было дасланае на электронны адрас "Новага часу", аднак ніякага заключэння рэдакцыя не атрымлівала.

7 чэрвеня суд Маскоўскага раёна Брэста аштрафаваў журналіста-фрылансера Яўгена Скрабца на 1020 беларускіх рублёў паводле арт. 22.9 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, бо "ён фактычна выконваў працу журналіста замежнай прэсы без акрэдытацыі". Скрабец даведаўся, што быў аштрафаваны, праз чатыры месяцы пасля суду, калі атрымаў паведамленне ад судовага выканаўцы аб нявыплаце штрафу. Падставай для складання адміністрацыйнага пратакола стаў навінавы артыкул на сайце "Радыё Рацыя" пра затрыманне і асуджэнне аднаго з праціўнікаў будаўніцтва акумулятарнага завода пад Брэстам.

9 ліпеня на рынку горада Ганцавічы Брэсцкай вобласці супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналіста тэлеканала "Белсат" Ігара Кулея і аператараў Сяргея Кавалёва і Максіма Гарчанка , якія здымалі эпізод праграмы "Белсат едзе ў Ганцавічы". Супрацоўнікі міліцыі загадалі журналістам ісці ў аддзяленне міліцыі, заявіўшы, што здымаць там не дазваляецца, і прымусілі іх адключыць камеры. Узяўшы тлумачэнні, журналістаў адпусцілі.

18 верасня журналіста-фрылансера Змітра Міцкевіча аштрафавалі паводле арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях у судзе Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі.

22 верасня на беларуска-польскай мяжы ў пункце пропуску "Тэрэспаль-Брэст" з цягніка знялі журналіста "Новага Часу" і "Зялёнага Партала" Аляксандра Вялітчанку, а таксама актывістку Аліну Сцяцову, якія вярталіся ў Беларусь. У іх адразу забралі пашпарты, а пасля таго як правялі дагляд рэчаў у цягніку, адвялі на асабісты дагляд, падчас якога пыталіся пра экстрэмісцкую літаратуру. Канчаткова Вялітчанку і Сцяцову вызвалілі толькі праз чатыры гадзіны. Мытнікі растлумачылі свае дзеянні атрыманым зверху загадам, але больш ніякай інфармацыі не паведамілі, спаслаўшыся на тое, што загад засакрэчаны.

25 верасня на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску "Каменны Лог" быў затрыманы з прычыны знаходжання ў міждзяржаўнай базе вышуку Садружнасці незалежных дзяржаў журналіст Фарход Адзінаеў, член апазіцыйнай Ісламскай партыі Адраджэння Таджыкістана. Улады Таджыкістана забаранілі гэтую партыю і абвясцілі яе тэрарыстычнай арганізацыяй у 2015 годзе, пасадзіўшы ў турму яе вышэйшае кіраўніцтва і дзесяткі іншых чальцоў. З тых часоў былі распачатыя рэпрэсіі супраць апазіцыйных актывістаў у Таджыкістане і за яго межамі, дзеля чаго выкарыстоўваліся запыты аб экстрадыцыі і "чырвоныя паведамленні" Інтэрпола для затрымання іх за мяжой. У 2013 годзе, жывучы ў Расіі, Адзінаеў заснаваў незалежны тэлеканал спадарожнікавага тэлебачання SAFO, які расказваў пра цяжкае становішча таджыкскіх мігрантаў у Расіі, а таксама асвятляў падзеі у Таджыкістане. З 25 верасня Адзінаеў знаходзіўся ў следчым ізалятары Гродна, чакаючы магчымай экстрадыцыі ў Таджыкістан, дзе ён быў абвінавачы ў крымінальных злачынствах

— "публічных закліках да ажыццяўлення экстрэмісцкай дзейнасці" і "арганізацыі экстрэмісцкай суполкі".

5 лістапада Генеральная пракуратура Беларусі вынесла афіцыйнае рашэнне аб адмове ў выдачы Адзінаева ўладам Таджыкістана.

5 кастрычніка відэаблогера Сяргея Ціханоўскага, аўтара YouTube-канала "Краіна для жыцця", затрымалі ў цэнтры Мінска пасля анлайн-трансляцыі з передвыбарнага мітынга апазіцыйнага палітыка Мікалая Статкевіча. Ціханоўскі расказаў падчас прамога эфіру, што яго аўтамабіль спынілі супрацоўнікі ДАІ і паведамілі, што на машыну зарэгістраваныя неаплачаныя штрафы. Пазней блогера запрасілі праехаць у Ленінскі РАУС. Там яму заявілі, што аўтамабіль, магчыма, скрадзены. Пасля складання пратакола Ціханоўскага адпусцілі. Ён правёў у аддзяленні міліцыі дзве гадзіны.

24 кастрычніка журналістку-фрылансера Дар'ю Чульцову аштрафавалі ў Мінску на 510 рублёў за незаконны выраб і / або распаўсюд прадукцыі СМІ – супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі – паводле артыкула 22.9 КаАП.

8 лістапада ў Мінску міліцыя затрымала карэспандэнтаў нямецкага тэлеканала ARD. Пазней журналістаў адпусцілі. Кіроўца аўтамабіля ARD правёў дзве з паловай гадзіны ў Цэнтральным РУУС, пасля чаго таксама быў адпушчаны. Увесь гэты час абсталяванне для здымак было закрытае ў аўтамабілі, і журналісты не маглі яго выкарыстоўваць. Затрыманне адбылося на плошчы Свабоды напярэдадні акцыі #whatsnext. Раней, 4 лістапада, відэаблогер NEXTA (Сцяпан Пуціла) заклікаў беларусаў праз свой Telegram-канал сабрацца на акцыю, каб вырашыць, куды павінна рухацца краіна. Мерапрыемства прайшло як перадвыбарчы пікет кандыдата ў парламент.

21 лістапада Ўладзімір Чудзянцоў, рэдактар незалежнага інтэрнэт-агенцтва навінаў by24.org, быў затрыманы беларускімі мытнікамі за захоўванне наркотыкаў, калі збіраўся перасекчы польскую мяжу цягніком. Паводле інфармацыі супрацоўнікаў мытні, мытнікі знайшлі 0,87 грама марыхуаны ў вопратцы Чудзянцова. Міліцыянты, якія правяліператрус у яго кватэры ў той жа дзень, заявілі, што наркотыкі былі знойдзеныя і там. Чудзянцоў быў абвінавачаны і змешчаны ў брэсцкі СІЗА на два месяцы; пазней тэрмін быў падоўжаны.

2 снежня аршанскага відэаблогера Змітра Казлова, вядомага пад нікам Шэры Кот, у судзе Аршанскага раёна аштрафавалі за ролік, размешчаны на YouTube. Суддзя Кацярына Мажэйка прыйшла да высновы, што Казлоў парушыў патрабаванні заканадаўства аб правядзенні масавых мерапрыемстваў і пастанавіла аштрафаваць яго на 510 рублёў. У сваім відэароліку блогер запрашаў прыйсці на Кастрычніцкую плошчу ў Мінску, каб сустрэцца з кандыдатамі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь".

10 снежня а 15-й гадзіне на плошчы Якуба Коласа ў Мінску затрымалі незалежнага журналіста Аляксандра Зянкова, які здымаў на камеру вулічны перформанс. У гэты дзень ініцыятыва "Маршыруй, дзетка" зладзіла арт-акцыю супраць хатняга гвалту над жанчынамі. Пасля затрымання журналіста даставілі ў аддзяленне міліцыі Савецкага раёна Мінска, дзе ўзялі тлумачэнні, а таксама скапіявалі запісы з відэакамеры. Прыкладна праз паўтары гадзіны пасля затрымання Зянкова вызвалілі.

12 снежня суд Віцебскага раёна аштрафаваў журналістаў-фрылансераў Алену Шабуню і Змітра Лупача на 816 і 1071 рубель адпаведна паводле артыкула 22.9 КаАП. Суддзя Ганна Ігнаценка прызнала журналістаў вінаватымі ў парушэнні заканадаўства аб СМІ — супрацы з замежным медыя без акрэдытацыі ў Міністэрстве замежных спраў. 16 лістапада на тэлеканале "Белсат" быў паказаны відэасюжэт пра жыхароў вёскі Шэвіна, якія адмовіліся ісці на мінулыя парламенцкія выбары з-за даўняй нявырашанай праблемы.

**26 снежня** суд Маскоўскага раёна Мінска аштрафаваў сябра Партыі БНФ **Іллю Дабратвора** ў адпаведнасці з арт. 23.34 КаАП Беларусі ("Парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў"), хаця ён рыхтаваў матэрыялы для інтэрнэт-сайтаў belprauda.org і pyx.by.

**27 снежня** раніцай на трасе М5 каля вёскі Лебядзёўка супрацоўнікі жлобінскай ДАІ затрымалі блогера **Сяргея Ціханоўскага**, аўтара YouTube-канала "Страна для жизни". Яго спынілі два экіпажы ДАІ і цывільная машына, у якой сядзелі людзі ў міліцэйскай форме. Капітан ДАІ заявіў Ціханоўскаму, што аўтамабіль аб'яўлены Веткаўскім РАУС у вышук, і прапанаваў ехаць у аддзел міліцыі на экспертызу. Блогер адмовіўся, бо мелася магчымасць агледзець машыну на месцы, але ніхто гэтага не зрабіў. Праз стрым блогер паведаміў, што ехаў у Мінск на здымкі на аўмашыне "Рэно", якая належыць яго сябру, і звязаў сваё затрыманне найперш са здымкамі пратэстаў супраць інтэграцыі Беларусі і Расіі, якія праходзілі ў Мінску.

Напярэдадні позна ўвечары Ціханоўскі атрымаў sms з патрабаваннем з'явіцца 27 снежня ў суд Савецкага раёна Гомеля, дзе мелася разглядацца адміністрацыйная справа ў адносінах да яго паводле артыкула 23.34 ("Парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства"). На гэтае паведамленне блогер адказаў, што не зможа прыехаць у суд, бо ў яго запланавана камандзіроўка ў Мінск. Урэшце Ціханоўскага прывезлі ў суд Савецкага раёна Гомеля, дзе суддзя Алена Шайн арыштавала яго на 15 сутак за ўдзел у акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй.

**27 снежня** суд Кастрычніцкага раёна Мінска пакараў фатографа **Генадзя Верацінскага**, пазаштатнага карэспандэнта часопіса "Абажур", штрафам у 765 рублёў за нібыта незаконны ўдзел у акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй, што праходзіла ў сталіцы 7 снежня. Ён быў на акцыі і як журналіст рабіў здымкі мерапрыемства, якія пазней былі размешчаныя на многіх інфармацыйных сайтах.

## Фізічныя замахі

**13 студзеня** гомельскі незалежны журналіст Кастусь Жукоўскі, які супрацоўнічаў з "Белсатам", заявіў, што падвергся нападу чатырох невядомых асобаў. Паводле ягоных словаў, Жукоўскі разам са спадарожнікам Барысам Анікеевым ехаў на машыне і спыніўся, каб знайсці прычыну, чаму рухавік аўтамабіля перагрэўся. Машыну ўзялі ў аблогу чацвёра мужчын, якія адразу ж пад'ехалі на джыпе. Яны распылілі Анікееву ў твар нейкую вадкасць. Жукоўскі быў збіты, яго пашпарт пашкоджаны, хаця ён быў нядзейны. Ні Жукоўскі, ні Анікееў не паведамлялі пра інцыдэнт у міліцыю. Зыходзячы з папярэдняга вопыту, яны не бачылі прычын гэта рабіць, бо міліцыя не разу не змагла знайсці людзей, якія пагражалі ім раней.

29 студзеня стала вядома, што Жукоўскі з'ехаў з Беларусі разам з жонкай і дачкой у адну з краін Заходняй Еўропы. Ён патлумачыў гэта трывогай за лёс сваёй сям'і. У апошнія гады журналіста-фрылансера дзясяткі разоў затрымлівала міліцыя, каб перашкодзіць яго грамадскай і журналісцкай дзейнасці. Толькі за 2018 год у дачыненні да Жукоўскага было складзена каля двух дзясяткаў адміністрацыйных пратаколаў за незаконны выраб прадукцыі СМІ без акрэдытацыі для тэлеканала "Белсат". Агульная сума штрафаў склала больш за 5000 еўра.

**3 сакавіка** ў Брэсце міліцыя на некалькі гадзін затрымлівала журналістаў **Алеся Ляўчука і Мілану Харытонаву.** Адбылося гэта, калі яны накіроўваліся да прыпынку грамадскага транспарту, каб паехаць на плошчу Леніна, дзе па нядзелях збіраліся працаўнікі будаўніцтва акумулятарнага завода. Да журналістаў падыйшлі супрацоўнікі міліцыі і прапанавалі прасьледаваць з імі ў апорны пункт аховы правапарадку. Калі Алесь Ляўчук паспрабаваў запярэчыць, міліцыянты ўжылі фізічную сілу і нават спрабавалі выкарыстаць наручнікі.

**2 чэрвеня** блогер **Сяргей Пятрухін** быў гвалтоўна памешчаны ў аўтамабіль і звезены дзвюма невядомымі асобамі ў камуфляжы. Гэта адбылося на скрыжаванні вуліц Савецкай і Маякоўскага ў Брэсце падчас прамой трансляцыі з шэсця супраць будаўніцтва акумулятарнага завода. У рэшце рэшт блогера завезлі ў Ленінскі РАУС, дзе ў адносінах да яго склалі адміністрацыйны пратакол (*гл. падрабязней у "Затрыманні, адміністрацыйны пераслед"*).

**16 лістапада** ў Мінску невядомыя напалі на здымачную групу **Радыё Свабода**, якая здымала шэсце ўдзельнікаў "мітынгу свабодных людзей" да Цэнтральнай выбарчай камісіі, арганізаванае грамадзянскай кампаніяй "Еўрапейская Беларусь". У выніку была пашкоджаная відэакамера.

## Вобшукі, выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі і носьбітаў інфармацыі

**7 сакавіка** па месцы жыхарства блогера **Аляксандра Кабанава** і ў яго бацькоў у горадзе Бяроза Брэсцкай вобласці прайшлі вобшукі. Яны былі звязаныя з узбуджэннем супраць Кабанава крымінальнай справы ў адпаведнасці з часткай 1 артыкула 211 Крымінальнага кодэкса ("Прысваенне або растрата") *(гл. падрабязней у "Крымінальныя справы")*.

**10 сакавіка** міліцыя правяла з санкцыі пракуратуры вобшук у кватэры блогера **Паўла Спірына** ў Мінску, якога тады ж дапытвалі ў міліцыі ў якасці сведкі ў межах расследавання справы, узбуджанай на падставе арт. 189 Крымінальнага кодэкса ("Абраза") *(гл. падрабязней у "Крымінальныя справы")*. У выніку ў Спірына быў забраны цвёрды дыск кампутара.

**9 красавіка** ўпраўленне Следчага камітэта па г. Мінску правяло вобшук у памяшканні, якое выкарыстоўвалі для сваёй дзейнасці супрацоўнікі спадарожнікавага тэлеканала **"Белсат"**, у межах крымінальнай справы, заведзенай па факце распаўсюду паклёпу на сайце тэлеканала (ч. 2 арт. 188 Крымінальнага кодэкса) *(гл. падрабязней "Крымінальныя справы")*. У выніку вобшуку, які працягваўся каля чатырох гадзін, былі вынятыя каля 10 носьбітаў інфармацыі, у тым ліку тры ноўтбукі і два цвёрдыя дыскі.

Праз два дні, 11 красавіка, Следчы камітэт вярнуў супрацоўнікам «Белсата» забранае абсталяванне.

**16 лістапада** ў Мінску невядомыя напалі на здымачную групу **Радыё Свабода**, якая здымала шэсце ўдзельнікаў "мітынгу свабодных людзей" да Цэнтральнай выбарчай камісіі, арганізаванае грамадзянскай кампаніяй "Еўрапейская Беларусь". У выніку нападу была пашкоджаная відэакамера.

## Пагрозы

**12 студзеня** журналістцы "Белсата" **Кацярыне Андрэевай** пагражалі па тэлефоне. Былы данбаскі баявік, чыя гісторыя была расказаная ў артыкуле Андрэевай, апублікаваным на сайце belsat.eu, патэлефанаваў аўтарцы на мабільны і пагражаў нанесці ёй цялесныя пашкоджанні, нецэнзурна лаючыся. "Змяняй месца жыхарства! Не ў мяне аднаго ёсць жаданне скруціць табе галаву", – заявіў былы баявік. З яго словаў, выкладзеная ў артыкуле інфармацыя не адпавядала рэчаіснасці. Журналістку ён назваў "прадажнай" і паабяцаў, што ў яе "будуць праблемы". Андрэева была вымушаная звярнуцца ў міліцыю.

**19 жніўня** журналістка "Зялёнага партала" (greenbelarus.info) **Наста Захарэвіч** атрымала паведамленні з абразамі і прыхаванай пагрозай у сацыяльнай сетцы "Вконтакте". Рэдакцыя партала

звязала гэта з яе публікацыямі пра будаўніцтва ў Брэсце акумулятарнага завода і пратэстамі з гэтай нагоды эколагаў і жыхароў горада. Журналістка звярнулася ў міліцыю з патрабаваннем прыцягнуць аўтара паведамленняў да адказнасці. Упраўленне ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна Мінска паведаміла, што асоба, якая пагражала Захарэвіч, не была вызначаная.

**24 верасня** блогер **Андрэй Павук** з райцэнтра Акцябрскі Гомельскай вобласці, які здымае і распаўсюджвае ў сацыяльных сетках праграму "Рудабельская паказуха", атрымаў на свой адрас у месэнджары Viber паведамленне з пагрозамі ад невядомых асобаў, тэкст якога апублікаваў у сваім Facebook: *«Заўтра суд, і ты яго прайграеш. Тэма з вобшукам была створана для таго, каб ты задумаўся пра свае паводзіны, закрыў свой смярдзючы рот і ўладкаваўся на працу. Скажы дзякуй, што нічога не падкінулі. Калі будзеш займацца сабатажам і ачарненнем існуючай улады, будуць прымацца захады ў дачыненні да цябе. Сядзеш, і твая [непрыстойнасць] жонка будзе перадачкі насіць [...]»*. Гэта адбылося напярэдадні слухання судовай справы аб спагнанні з міліцыі маральнай шкоды за незаконныя затрыманне і вобшук А. Павука, якія адбыліся ў сакавіку 2019 году (гл. падрабязней у "Затрыманні, адміністрацыйны пераслед"). Аўтар паведамлення міліцыяй вызначаны не быў.

**1 лістапада** Андрэй Павук атрымаў яшчэ адну пагрозу на свой акаунт у Viber, якая тычылася ягонага звароту да міністра ўнутраных спраў у сувязі з адмовай мясцовай міліцыі абараніць яго. У паведамленні невядомая асоба заявіла, што блогер будзе працягваць атрымліваць "адпіскі, што асоба не ўстаноўлена" на ўсе свае звароты ў міліцыю з нагоды правакацый і пагроз. Акрамя таго, у ананімным паведамленні гаварылася: *"Табе было проста напісана, што суд ты прайграеш – так і выйшла... Паглядзі на Манько (прадпрымальнік і блогер з Калінкавічаў – рэд.). Мы яго папярэджвалі, ён не разумеў папярэджанняў – у выніку сядзіць. Калі будзеш так сябе паводзіць, то задумайся: магчыма, такі ж лёс цябе чакае, як і Манько. Артыкулаў у КК шмат, а падставы знойдуцца. Цябе пасадзяць, а колішняя жонка будзе адна гадаваць дзяцей – яно табе трэба? Ты дарослы мужчына, уладкуйся на працу альбо бутэлькі збірай. І ведай, уся ваша кодла пад каўпаком"*.

Андрэй Павук лічыць, што ўсе правакацыі і пагрозы ў адносінах да яго накіраваныя на тое, каб запалохаць пры дапамозе псіхалагічнага ціску.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

**10 студзеня** Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да дваццаці двух інтэрнэт-рэсурсаў за размяшчэнне неналежнай рэкламы пра выдачу займаў неабмежаванаму колу асобаў. Рашэнне было прынятае ў адпаведнасці з пісьмовым апавяшчэннем Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю Рэспублікі Беларусь.

**18 сакавіка** Міністэрства інфармацыі абмежавала доступ да інтэрнэт-рэсурсу на тэму анархізму на падставе рашэння суда Цэнтральнага раёна Мінска аб тым, што сайт распаўсюджвае экстрэмісцкія матэрыялы.

**20 сакавіка** інтэрнэт-газета **"Наша Ніва"** паведаміла, што на працягу сакавіка былі зафіксаваныя некалькі спробаў незаконных уваходаў у акаунты, якія належаць яе аўтарам, у месенджарах і сацыяльных сетках. У прыватнасці, невядомыя спрабавалі ўзламаць фэйсбук Арцёма Гарбацэвіча і зайсці ў тэлеграм Андрэя Дынько. 20 сакавіка была зафіксаваная спроба няўдалага ўваходу ў тэлеграм журналісткі Кацярыны Карпіцкай. У апошнім выпадку той, хто спрабаваў гэта зрабіць, карыстаўся спецыяльнымі магчымасцямі і, найхутчэй, меў клон сім-карты, на якую атрымаў дасланы праграмай лічбавы код. Аднак у акаунце стаяла двайная аўтарызацыя, таму пасля ўвядзення лічбавага кода праграма запытала дадатковы пароль, які злачынца не ведаў.

**3 красавіка** быў абмежаваны доступ да 244 інтэрнэт-рэсурсаў. Такое рашэнне прыняло Міністэрства інфармацыі, якое атрымала адпаведны дакумент з МУС. Прычынай абмежавання доступу да рэкорднай колькасці сайтаў стала размяшчэнне на іх інфармацыі пра продаж наркатычных сродкаў і псіхатропаў.

**2 верасня** Мінінфарм абмежаваў доступ да сямі рэсурсаў на падставе пісьмовых апавяшчэнняў МАРТ і МУС. Доступ да пяці інтэрнэт-рэсурсаў быў спынены за размяшчэнне інфармацыі аб продажы наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў, яшчэ да двух – за размяшчэнне неналежнай рэкламы.

**10 кастрычніка** адзін з самых папулярных інфармацыйных сайтаў Беларусі, **onliner.by**, стаў аб'ектам моцнай DDoS-атакі. Адміністратары сайту паведамілі пра цяжкасць доступу да яго і пра падазроную актыўнасць у профілях карыстальнікаў. Прадстаўнікі onliner.by распавялі пра здарэнне сваёй аўдыторыі і папрасілі прабачэння за нязручнасці. У звароце рэдакцыі прапаноўвалася, каб карыстальнікі сайту падвысілі бяспеку сваіх профіляў, змяніўшы паролі і дазволіўшы двухэтапную аутэнтыфікацыю.

**26 снежня**, пасля публікацыі анонсу пра патэсты ў Менску, прызначаныя на 29 снежня, пачалася DDoS-атака на сайт **belsat.eu**, якая працягвалася два дні. Прадстаўнікі тэлеканала "Белсат" паведамілі, што сайт быў атакаваны не менш чым з трох тысячаў IP-адрасоў.

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

**14 студзеня** кіраўніца аддзелу гандлю і паслуг Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Асос адмовілася адказваць на пісьмовы запыт незалежнай рэгіянальнай газеты **"Intex-press"** пра вынікі сваёй працы за 2018 год і планы на 2019 год. Пытанні тычыліся дынамікі таваразвароту, развіцця гандлёвай сеткі і грамадскага харчавання. Чыноўніца парэкамендавала журналістам прыходзіць за адказамі ў сакавіку, калі, паводле плану працы Баранавіцкага гарвыканкама, будзе разглядацца пытанне "Пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця гандлю, грамадскага харчавання за 2018 год і задачы на 2019 год".

**17 студзеня** журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам **"Белсат"**, не пусцілі на прэс-канферэнцыю ў будынку Магілёўскага аблвыканкама, прысвечаную экалагічнаму становішчу на тэрыторыі Магілёўскай вобласці. Асноўная ўвага падчас мерапрыемства надавалася сітуацыі на пакуль яшчэ непрацуючым прадпрыемстве "Омск Карбон Магілёў", дзе ў перспектыве будзе выпускацца тэхнічны вуглярод. Грамадскасць Магілёва вельмі занепакоеная магчымым пагаршэннем экалагічнай сітуацыі пасля запуску прадпрыемства ў эксплуатацыю. Начальніца ўпраўлення па працы са сродкамі масавай інфармацыі і моладзевай палітыкі Алена Дзівакова запатрабавала ў журналістаў "Белсата" паказаць пасведчанні, што яны з'яўляюцца журналістамі зарэгістраванага ў Беларусі СМІ, а таксама паведаміла пра неабходнасць папярэдняй рэгістрацыі для ўдзелу ў прэс-канферэнцыі. Паколькі журналісты з'яўляюцца фрылансерамі, то неабходных пасведчанняў у іх не аказалася, што і стала фармальнай падставай не пусціць іх на мерапрыемства.

**25 студзеня** першы намеснік старшыні Магілёўскага райвыканкама Сцяпан Палоннікаў спрабаваў не дапусціць журналістаў на сустрэчу кіраўніцтва завода па вытворчасці тэхнічнага вугляроду "Омск Карбон Магілёў" і чыноўнікаў з мясцовымі жыхарамі ў аграгарадку Вейна Магілёўскага раёна. Спачатку чыноўнік сказаў журналістам, што ім патрэбная акрэдытацыя для ўдзелу ў сустрэчы. Пасля тлумачэнняў журналіста **Уладзіміра Лапцэвіча**, што для гэтага патрэбна, каб Магілёўскі райвыканкам спачатку распрацаваў адпаведнае палажэнне аб акрэдытацыі, Палоннікаў запатрабаваў ад журналістаў прадаставіць свае пасведчанні і загадаў чыноўніцы перапісаць іх па нумарах.

30 студзеня Алега Супрунюка, рэдактара сайта "Першы рэгіён", які збіраўся прысутнічаць на судовым паседжанні па справе, што мела грамадскі рэзананс, не прапусцілі ў суд Брэсцкага раёна па рэдакцыйным пасведчанні. Пры гэтым на ганку будынка суда было размешчана паведамленне, што ў суд можна трапіць па дакументах, якія пацвярджаюць асобу, з далейшай рэгістрацыяй у кнізе ўліку наведнікаў. Спробы Алега Супрунюка давесці супрацоўніку аховы, што рэдакцыйнае пасведчанне і ёсць такім дакументам, плёну не мелі.

8 сакавіка стала вядома, што ў адказ на скаргу журналіста начальнік Ленінскага (г. Брэста) аддзела Дэпартамента аховы МУС РБ Уладзімір Ігнацюк паведаміў, што з боку ахоўніка "парушэнняў патрабаванняў лакальных нарматыўных дакументаў не знойдзена". У лісце таксама было адзначана, што "супрацоўнік Дэпартамента аховы МУС РБ, які знаходзіцца на службе ў будынку суда, кіруецца вуснымі альбо пісьмовымі ўказаннямі кіраўніцтва суда".

1 лютага ахоўнікі не дазволілі журналістцы інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Мілане Харытонавай і блогеру Сяргею Пятрухіну асвятляць судовы працэс у судзе Ленінскага раёна Брэста, дзе абвешчаўся прысуд па справе двух супрацоўнікаў міліцыі, якіх абвінавацілі ў карупцыі. Яшчэ да пачатку судовага паседжання невядомыя людзі ў цывільным запоўнілі залу суда. Пасля гэтага міліцыя пачала абмяжоўваць доступ туды людзей, заяўляючы аб недахопе месца. Было заўважана, што абмежаванні перадусім тычыліся тых, хто мог зрабіць у залі фота і відэа.

22 лютага ў Брэсце ахоўнікі акумулятанага завода дапускалі журналістаў на яго тэрыторыю па спісах. Хто і па якіх крытэрах ствараў гэтыя спісы, засталося невядомым. Хаця кіраўніцтва завода арганізавала адмысловы прэс-тур, патрапіць на прадпрыемства, супраць пачатку дзейнасці якога у Брэсце ўжо амаль год адбываліся акцыі пратэсту, здолелі далёка не ўсе журналісты і блогеры. Акрамя прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ, патрапіць на завод "АйПаўэр" змаглі толькі асобныя журналісты незалежных медыя (інфармагенцтва БелаПАН і інтэрнэт-партала TUT.by).

15 сакавіка блогер Сяргей Пятрухін прыйшоў ў Брэсцкі аблвыканкам на брыфінг намесніка яго старшыні Генадзя Барысюка. Каля ўваходу Пятрухіна сустрэў памочнік чыноўніка Яўген Віктаровіч, які не пусціў яго ў будынак, спаслаўшыся на адсутнасць у яго акрэдытацыі, забараніў блогеру рабіць відэазапіс і выклікаў міліцыю. Пятрухіну потым стала вядома, што не ўсе журналісты і блогеры, што прысутічалі на брыфінгу, былі акрэдытаваныя.

17 красавіка карэспандэнтка "Газеты Слонімскай" Крысціна Саладуха па заданні рэдакцыі прыйшла ў райвыканкам Слоніма, каб сфатаграфаваць экспазіцыю праекта жыллёвай забудовы на праспекце Незалежнасці, прэзентацыя якога адбылася напярэдадні. Аднак супрацоўніца аховы не пусціла журналістку недзяржаўнага СМІ ў будынак, заявіўшы, што не мае права прапускаць людзей з фотатэхнікай без спецыяльнага дазволу.

18 красавіка журналісты інфармацыйнага сайта TUT.by, інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, газеты "Беларусы і Рынок" і Еўрапейскага радыё для Беларусі не былі акрэдытаваныя для асвятлення штогадовага звароту Аляксандра Лукашэнкі да народа і Нацыянальнага сходу, які меўся адбыцца 19 красавіка. Двое з іх – Таццяна Каравенкова (TUT.by) і спецыяльны карэспандэнт Еўрарадыё Зміцер Лукашук – былі пастаянна акрэдытаваныя ў парламенце.

3 мая журналістаў не пусцілі на паседжанне камісіі, прысвечанае забудове квартала ў цэнтры Мінска, якое праходзіла ў адміністрацыі Першамайскага раёну сталіцы за зачыненымі дзвярыма і пад аховай міліцыі. Пад дзвярыма сабраліся два дзясяткі чалавек, якія падалі пісьмовыя заявы, каб прысутнічаць на камісіі, але іх не пусьцілі. Таксама не пусцілі карэспандэнтаў "Радыё Свабода" і TUT.by. Калі журналістка Свабоды Іна Студзінская наблізілася да дзвярэй, старшы прапаршчык міліцыі Віталь Дабравольскі груба выпіхаў яе з кабінету.

13 мая з тэлефоннай размовы з супрацоўнікам МЗС гродзенскі журналіст Віктар Парфёненка даведаўся, што яму ў чарговы раз адмовілі ў акрэдытацыі.

Парфёненка ўжо дзесяць гадоў супрацоўнічае з "Беларускім Радыё Рацыя", зарэгістраваным у Польшчы. Кожны год ён звяртаецца ў Міністэрства замежных спраў Беларусі з просьбай аб акрэдытацыі ў якасці замежнага карэспандэнта і заўсёды атрымлівае адмову.

15 мая Міністэрства замежных спраў Беларусі адмовіла ў акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта замежнага СМІ журналісту "Беларускага Радыё Радыя" (Польшча) Яўгену Скрабцу. У адказе на адрас кіраўніка радыё Яўгена Вапы Міністэрства спаслалася на тое, што цягам апошніх шасці месяцаў былі выпадкі супрацы з "Радыё Рацыя" неакрэдытаваных журналістаў.

6 чэрвеня анлайн-газета "Наша Ніва" апублікавала дакумент – памятку, якую нібыта разаслалі па сельскіх гаспадарках Светлагорскага раёна. Ён называецца "Алгарытм дзеяння кіраўніка і супрацоўнікаў арганізацыі пры працы са СМІ". У ім прапануецца адразу паглядзець на журналісцкае пасведчанне, а калі яно не прадастаўляецца, а ў адказ чуецца: "фрылансер", "Белсат", "БАЖ", то адмаўляць у каментарах і інтэрв'ю. У памятцы гаварылася, што ў выпадку чаго трэба званіць начальніцы аддзела ідэалагічнай работы Светлагорскага райвыканкама Але Манькевіч. Калі ж журналісты агрэсіўна сябе паводзяць, то тэлефанаваць у міліцыю. Таксама ў задачу кіраўніцтва ставілася інструктаваць супрацоўнікаў калектываў, а таксама не дапускаць "пабочных асобаў" на тэрыторыю прадпрыемства. Ала Манькевіч пракаментавала для "Нашай Нівы" з'яўленне ў інтэрнэце гэтага дакумента, заявіўшы, што ніякіх ні лістоў, ні рассылак, ні падобных алгарытмаў дзеяння не рассылала і нехта яе дыскрэдытаваў.

7 чэрвеня журналістку "Брэсцкай газеты" не дапусцілі ў новы будынак суда пасля яго ўрачыстага адкрыцця, спасылаючыся на адсутнасць у яе акрэдытацыі.

11 чэрвеня адміністрацыя акумулятарнага завода "АйПаўэр", супраць будаўніцтва якога выступаюць жыхары Брэста, праводзіла прэс-канферэнцыю, але не дазволіла зайсці, без аніякіх каментароў, на тэрыторыю прадпрыемства большасці прадстаўнікоў незалежных СМІ і блогераў, якія рэгулярна асвятляюць падзеі, звязаныя з гэтым будаўніцтвам.

12 чэрвеня ніхто з прадстаўнікоў СМІ не быў дапушчаны на сустрэчу кіраўніка Брэсцкага аблвыканкама Анатоля Ліса з удзельнікамі экалагічнага пратэсту, нягледзячы на тое, што ў спіс ўдзельнікаў былі ўключаныя тры незалежных журналіста. Аўдыёзапіс і фотаздымкі падчас сустрэчы былі забароненыя.

26 чэрвеня віцебскія журналісты Зміцер Казакевіч і Вячаслаў Лазараў не здолелі трапіць на круглы стол, які на просьбу віцебскіх удзельніц руху "Маці 328" арганізаваў аддзел адукацыі. Журналістаў не пусцілі ў Віцебскі абласны інстытут развіцця адукацыі, дзе праводзілася мерапрыемства, таму што іх прозвішчаў не было ў спісе запрошаных, хаця яго ініцыятары — бацькі асуджаных за наркотыкі — прасілі, каб прадстаўнікоў прэсы не выдалялі.

9 ліпеня на рынку горада Ганцавічы Брэсцкай вобласці супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналіста тэлеканала "Белсат" Ігара Кулея і аператараў Сяргея Кавалёва і Максіма Гарчанка, якія здымалі эпізод праграмы "Белсат едзе ў Ганцавічы". Яны заявілі, што здымаць тут не дазваляецца, і прымусілі журналістаў адключыць камеры. Пасля ўзяцця тлумачэнняў у аддзяленні міліцыі журналістаў адпусцілі.

15 ліпеня незалежная газета "Наша ніва" звярнулася да прэс-сакратара Міністэрства сельскай гаспадаркі Зінаіды Бярэшчанка з просьбай пракаментаваць той факт, што намеснік міністра сельскай гаспадаркі Ігар Брыло выклаў у інстаграме здымак, на якім ён пазіруе ў майцы з надпісам "Russia" на барысаўскім прадпрыемстве "Здравушка". СМІ звярнулі ўвагу на гэты выпадак, пасля чаго чыноўнік закрыў свой акаунт. У першай размове Бярэшчанка паабяцала пагаварыць з Ігарам Брыло, аднак

падчас другога званка яна ў непрыстойнай форме адмовілася адказваць на пытанні, заявіўшы: «Паслухайце, спыняйце палітызаваць там, дзе гэта не трэба рабіць. Спыняйце ўкладваць у галовы грамадства тое, што не трэба ўкладваць".

14 жніўня чыноўнік Брэсцкага абласнога выканкама адмовіўся даць інфармацыю пра выпадак сібірскай язвы ў Столінскім раёне журналістцы газеты "Комсомольская правда" в Беларуси" Аксане Бровач. Ён адказаў, што ўся інфармацыя ёсць на сайце БелТА: "Вы чытаць умееце? Там як напісана?". Варта дадаць, што афіцыйнае паведамленне пра выпадак сібірскай язвы прэс-служба Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання распаўсюдзіла выключна для дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА.

28 жніўня дырэктар магілёўскай сярэдняй школы № 9 Аляксандр Сёмачкін катэгарычна адмовіўся размаўляць з журналістамі, спаслаўшыся на тое, што яму для гэтага патрэбны дазвол упраўлення адукацыі. Ён сказаў: *"...без дазволу ніякай размовы са СМІ не будзе. Тэлефануйце майму непасрэднаму начальству, пытайцеся ў іх дазволу"*. Па словах журналіста магілёўскага сайта mspring.online Аляксандра Буракова (малодшага), журналісты разам з бацькамі вучняў чакалі дырэктара каля школы, каб абмеркаваць тое, што іх прымушаюць забраць дакументы дзяцей са школы. Нібыта адпаведнае рашэнне было прынятае ў сувязі з тым, што навучаць дзесяцікласнікаў эканамічна нявыгадна з-за іх невялікай колькасці. Акрамя Аляксандра Буракова, пагутарыць з дырэктарам магілёўскай школы № 9 спрабавалі карэспандэнты інфармацыйнага агенства БелаПАН і навінавага сайта TUT.by.

26 верасня дэпутат Палаты Прадстаўнікоў па Баранавіцкай-Заходняй акрузе № 5 Вольга Палітыка ў сваім лісце не стала адказваць на пытанні недзяржаўнага выдання «Intex-press». Спаслаўшыся на занятасьць, яна паведаміла, што лічыць *«заўчасным падводзіць вынікі дзейнасці ў якасці дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання»*, аднак паабяцала пасля заканчэння паўнамоцтваў даць справаздачу перад выбаршчыкамі. Адказаць пазней на пытанні «Intex-press» дэпутат не абяцала. Між тым, 3 кастрычніка ў эфіры праграмы «Маркаў. Нічога асабістага» на тэлеканале ОНТ Вольга Палітыка дала інтэрв'ю вядучаму аб сваёй дзейнасці ў Палаце прадстаўнікоў, знайшоўшы час у сваім шчыльным графіку.

17 кастрычніка гродзенскаму журналісту Віктару Парфёненку адмовілі ў акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі. Гэта была яго адзінаццатая спроба атрымаць афіцыйны дазвол працаваць карэспандэнтам «Беларускага Радыё Рацыя", размешчанага ў Польшчы, пачынаючы з 2009 года. На гэты раз журналісту адмовілі ў адпаведнасці з пунктам 15.4 Палажэння аб акрэдытацыі замежных журналістаў: *"на працягу шасці месяцаў адмаўляць замежнаму сродку масавай інфармацыі ў акрэдытацыі журналістаў у выпадку ўстанаўлення факта выкарыстання паслуг журналістаў і (або) іншых асоб, якія не маюць акрэдытацыі".*

13 лістапада начальнік Баранавіцкага ГАУС Аляксандр Сіліцкі адмовіўся даваць інфармацыю карэспандэнтцы мясцовай незалежнай газеты "Intex-press" Ірыне Комік, паколькі, па яго словах, супрацоўнікі аддзела не павінны мець зносін з журналістамі гэтага СМІ. На пытанне "чаму" міліцыянт сказаў: "Я не магу гэта патлумачыць".

20 лістапада дырэктар выдавецкага дома "Інтэкс-прэс" Уладзімір Янукевіч на асабістым прыёме ў начальніка аддзела ўнутраных спраў Баранавіцкага гарвыканкама Ўладзіміра Максімчыка паскардзіўся на цяжкасці ў атрыманні інфармацыі ад ГАУС і перадаў пісьмовую скаргу.

29 лістапада рэдакцыя атрымала адказ Уладзіміра Максімчыка, у якім паведамлялася, што *"парушэнняў у дзеяннях супрацоўнікаў Баранавіцкага ГАУС не ўстаноўлена"*.

18 лістапада журналісты тэлеканала "Белсат" Ірына Арахоўская і Зміцер Міцкевіч былі пазбаўленыя акрэдытацыі для асвятлення падзей Сусветнага тыдня прадпрымальніцтва (GEW Belarus 2019), які

праходзіў у Мінску з 18 па 24 лістапада. Тэлеканал "Белсат" накіраваў заяўку на акрэдытацыю для чатырох журналістаў, і двое з іх яе атрымалі. Аднак раніцай 18 лістапада падчас рэгістрацыі ім сказалі, што Міністэрства эканомікі адмяніла акрэдытацыю.

**18 лістапада** журналістцы "Рэгіянальнай газеты" **Зоі Хруцкай** адмовілі ў прадастаўленні інфармацыі ва УП "Камунальнік", куды яна патэлефанавала, каб удакладніць інфармацыю пра бясплатную выдачу кантэйнераў для раздзельнага збору смецця жыхарам горада Маладзечна. У адказ на яе пытанні адзін са спецыялістаў прадпрыемства параіў для атрымання дазволу на інтэрв'ю звярнуцца да намесніка дырэктара па ідэалогіі Валерыя Альшэўскага. У тэлефоннай гутарцы з Альшэўскім Хруцкая паспела сказаць толькі: "Мы б хацелі напісаць…". "А мы б не хацелі", – адказаў намеснік. Калі журналістка спыталася: "У сэнсе, што вы не хацелі?", Валерый Альшэўскі вымавіў: "У прамым сэнсе." – І паклаў слухаўку. Другі званок, які журналістка зрабіла пад дыктафонны запіс, абарваўся адразу ж пасля таго, як яна назвалася і папярэдзіла, што гутарка запісваецца.

**5 снежня** інфармацыйнай кампаніі **БелаПАН** і шэрагу іншых недзяржаўных СМІ адмовілі ў акрэдытацыі для асвятлення сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў і чальцамі Савета Рэспублікі адыходзячага і новага скліканняў, якая праходзіла ў Палацы Незалежнасці.

**18 снежня** раніцай стала вядома, што журналістам інфармагенцтва **БелаПАН** адмовілі ў праве прысутнічаць на пасяджэнні Савета Рэспублікі, прызначаным на 19 снежня. Пры гэтым агенцтва мела афіцыйную акрэдытацыю. Калі ГА "БАЖ" звярнулася да прэс-сакратара Савета Рэспублікі Вольгі Казловіч па тлумачэнні, тая паведаміла, што раней журналісты БелаПАН наведвалі мерапрыемствы Савета Рэспублікі, але прынята рашэнне на заўтрашняе пасяджэнне запрашаць СМІ "ў вузкім фармаце". Далей Казловіч папрасіла звяртацца за тлумачэннямі ў пісьмовым выглядзе, што і было зроблена. Праз некалькі гадзін пасля агалоскі праблемы прадстаўніца Савета Рэспублікі паведаміла, што журналіст агенцтва ўсё ж будзе дапушчаны на пасяджэнне.

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў

**14 студзеня** тэлеканал **СТБ** прыбраў словы былой біятланісткі, алімпійскай чэмпіёнкі Надзеі Скардзіна, якая распавяла, як Адміністрацыя Прэзідэнта не дазволіла стварыць радыёстанцыю "Спорт FM". Гэты праект Скардзіна збіралася рэалізаваць разам з плаўчыхай, двухразовай віцэ-чэмпіёнкай Алімпіяды Аляксандрай Герасіменяй. Спартоўкі звярнуліся ў Міністэрства інфармацыі, адкуль іх перанакіравалі ў Адміністрацыю Прэзідэнта. Тамтэйшыя чыноўнікі назвалі праект Скардзіны і Герасімені "нямэтазгодным", бо ў нашай краіне і так ужо шмат радыёстанцый. Увечары ў нядзелю на сайце СТБ з'явіўся тэкставы варыянт інтэрв'ю Скардзіны. Словы пра "Спорт FM" раніцай у панядзелак зніклі, а пасля прыбралі ўвесь тэкст. Спачатку відэаінтэрв'ю адрэдагавалі, а пасля зніклі і выпраўленыя варыянты.

**7 лютага** карэспандэнт "Нашай Нівы" **Арцём Гарбацэвіч** сутыкнуўся з некарэктнымі паводзінамі прэс-сакратара Міністэрства абароны Уладзіміра Макарава, да якога звярнуўся па каментар наконт магчымых вучэнняў НАТА на тэрыторыі Беларусі. Замест адказу на пытанне той у жорсткай форме рэкамендаваў журналісту звярнуцца да афіцыйных крыніц, пасля чаго паміж імі адбыўся наступны дыялог:

*У. Макараў: Скажыце мне як члену Беларускага саюза журналістаў: чаму вы ў войску не служылі, а?*

*А. Гарбацэвіч: Пра што вы ў мяне пытаецеся? Тут я вам задаю пытанні.*

*У. Макараў: Я як член Беларускага саюза журналістаў пішу чарговы матэрыял. Няўжо вы саромеецеся сваёй сэксуальнай арыентацыі? У нас выконваецца заканадаўства да літары, мы не амерыканцы, у нас няма ніякіх дыскрымінацый. А, спадар Гарбацэвіч?*

*А. Гарбацэвіч: Я магу вам задаць сустрэчнае пытанне: вы што, дурак?*

22 лютага Міністэрства абароны пракаментавала размову прэс-сакратара Макарава і карэспандэнта "Нашай Нівы". У адказе, падпісаным памочнікам міністра абароны па ідэалагічнай працы Леанідам Касінскім гаварылася: *"Разам з тым абодва, і начальнік упраўлення інфармацыі – прэс-сакратар Міністэрства абароны У.М. Макараў і журналіст выдання "Наша Ніва" Арцём Гарбацэвіч, павялі сябе не зусім карэктна з пункту гледжання нормаў прафесійнай этыкі. З У.М. Макаравым праведзена размова».*

25 лютага на сайце газеты Адміністрацыі прэзідэнта "СБ. Беларусь сегодня" з'явіўся артыкул пра мізэрныя заробкі, што прапаноўваюць выпускнікам журфака, які потым быў выдалены. Артыкул называўся "Дэкан журфака БДУ: "Стартавы аклад, які прапануюць нашым выпускнікам у рэгіёнах – 162 рублі". Гэтыя словы дэкан Вольга Самусевіч сказала на калегіі Міністэрства інфармацыі. *"Сёлета пад размеркаванне трапляюць 102 выпускнікі. Але ёсць велізарныя складанасці, якія тычацца перш за ўсё размеркавання на месцах. Справа ў тым, што ў рэгіянальных СМІ стартавы аклад, прапанаваны нашым выпускнікам – 162 рублі. Пры гэтым толькі 30% рэгіянальных СМІ гатовыя даць маладому супрацоўніку месца ў інтэрнаце ці іншае жыллё. Усё гэта, як вы разумееце, не спрыяе жаданню выпускнікоў працаваць у рэгіянальных сродках масавай інфармацыі"*, – зазначыла Самусевіч. Адметна, што ў хуткім часе артыкул пра аклад маладых журналістаў з сайта "СБ" чамусьці знік. Знайсці публікацыю стала можна толькі ў кэшы пошукавых сістэм.

16 мая рэдактар беларускай службы міжнароднай валанцёрскай супольнасці InformNapalm і журналіст выдання "Новы Час" Дзяніс Івашын зрабіў заяву наконт інфармацыйнай атакі з боку расійскіх мэдыярэсурсаў і папярэдзіў пра магчымыя пагрозы яго асабістай бяспецы. Па яго словах, сітуацыя цягнулася з сярэдзіны красавіка 2019 года. Івашын заўважаў, што ў гэтую кампанію былі ўцягнутыя і некаторыя прадстаўнікі беларускіх медыя. Галоўнымі інфармацыйнымі рэсурсамі ў гэтай кампаніі, паводле словаў Івашына, выступалі antimaydan.info, news-front.info, novorosinform.org, politnavigator.net, тэлеграм-каналы "338", "Трыкатаж" і шэраг іншых. Журналіст меркаваў, што характар, спосаб падачы і каналы распаўсюду дэзынфармацыі ў дачыненні да яго могуць сведчыць пра тое, што за гэтым стаяць сілавыя ведамствы Расійскай Федэрацыі.

4 чэрвеня журналіст Максім Хлябец расказаў, што яго знаёмыя амерыканскія журналісты, якія працавалі ў Брэсце (пісалі матэрыялы пра акумулятарны завод і лёс беларускай мовы), засталі ў нумары аднаго з іх у гатэлі "Эрмітаж" трох чужых людзей, калі вярнуліся з рабочай паездкі. Адзін з гэтых людзей сядзеў за асабістым камп'ютарам журналіста. На просьбы прадстаўіцца яны нічога не адказвалі. Калі Хлябец і амерыканскі журналіст разам спусціліся да адміністратара і спрабавалі даведацца, што гэта за людзі і чаму яны ў яго ў нумары, яму нічога не змаглі адказаць. Пазней у гатэлі "Эрмітаж" пацвердзілі, што было "непаразуменне" з замежнымі пастаяльцамі, але адмаўлялі той факт, што нехта спрабаваў пранікнуць у асабісты камп'ютар госця. Прадстаўнік службы бяспекі гатэля патлумачыў газеце "Наша Ніва", што паступіла скарга на пах дыму на паверсе і яны правяралі разеткі на прадмет абгарэласці ці кароткага замыкання.

13 жніўня жыхар Драгічына Іван Сухарэвіч даслаў лісты ў Нацыянальны сход Беларусі і галоўнаму рэдактару навінавага сайта "Першы Рэгіён" Пятру Гузаеўскаму, дзе выклаў негатыўнае стаўленне да гэтага інтэрнэт-рэсурсу і асабіста да яго драгічынскага карэспандэнта Сяргея Гардзіевіча. Аўтар ліста папярэджваў пра сур'ёзныя наступствы для "Першага Рэгіёна", калі напярэдадні выбараў журналісты паспрабуюць "расхістаць грамадства нашага горада і раёна" і патрабаваў прыцягнуць да адказнасці Сяргея Гардзіевіча. У лісце шмат разоў узгадваліся абвінавачванні ў хлусні, але не прыводзілася ніводнага канкрэтнага факту. Скарга Івана Сухарэвіча

трапіла на разгляд у Драгічынскі РАУС. Там зладзілі праверку, пасля якой накіравалі пісьмовы адказ карэспандэнту "Першага Рэгіёна" Сяргею Гардзіевічу аб тым, што не знайшлі ў яго дзеяннях прыкметаў супрацьпраўнай дзейнасці.

15 жніўня барысаўская мясцовая афіцыйная газета "Адзінства" зарэтушавала на фотаздымку герб "Пагоня", які разглядаецца ўладамі як сімвал апазіцыі. У світшот з выявай "Пагоні" быў апрануты трэнер па кросфіту ў інвалідным вазку Віктар Захар'еў, інтэрв'ю з якім было апублікавана на сайце "Адзінства".

4 кастрычніка блогеру з Акцябрскага Андрэю Павуку патэлефанаваў апэратыўны дзяжурны РАУС і паведаміў што ў міліцыю паступіў тэлефонны званок нібыта з нумара самога Павука, падчас якога невядомы, які назваўся Андрэем Павуком і паведаміў яго хатні адрас, заявіў, што "забіў сваю жонку Вольгу і яе палюбоўніка". Жонка Павука Вольга была вымушаная тэлефанаваць і тлумачыць, што гэты званок – правакацыя, а затым звярнуцца з заявай у міліцыю. У РАУС паведамілі, што "хулігана" знайсці не атрымаецца.

3 лістапада ў Смаргоні праваабаронца Алесь Дзергачоў, які распаўсюджваў на рынку спецвыпуск газеты "Новы час", прысвечаны правам чалавека ў турмах, быў прымушаны даваць тлумачэнні ў міліцэйскім аўтамабілі. Пасля распаўсюду, калі Дзергачоў з апошнім асобнікам газеты стаяў і размаўляў з адным з наведвальнікаў рынку, да яго падыйшоў супрацоўнік міліцыі і спытаў, ці распаўсюджвае ён газету і на якой падставе. У адказ Дзергачову давялося тлумачыць, што распаўсюд праводзіўся на падставе Канстытуцыі, якая гарантуе адпаведную свабоду. Тым не менш, міліцыянт выказаў меркаванне, што праваабаронца праводзіць несанкцыянаваны пікет, бо каля яго збіраюцца людзі, і павінен даць тлумачэнні.

15 лістапада ў Бабруйску мясцовае радыё Zephyr FM звольніла ды-джэя Паўла Хаджаева за тое, што раніцай 11 лістапада ён апублікаваў неафіцыйны рэйтынг беларускіх гарадоў, у якім Бабруйск апынуўся на апошнім месцы. Пасля гэтага Віталь Аўсеенка, галоўны рэдактар медыяхолдынга "Бабруйскае жыццё", які ў тым ліку ўключае і гэтую радыёстанцыю, быў выкліканы для тлумачэнняў у гарадскі выканаўчы камітэт. Калі ён вярнуўся, то сказаў, што ў эфіры не павінна быць негатыўнай інфармацыі, а калі гэта афіцыйная інфармацыя, то яна павінна падавацца ў мяккай форме. На наступны дзень ды-джэя Хаджаева звольнілі. Кіраўніца радыёстанцыі Алена Радоўская назвала прагулы афіцыйнай прычынай звальнення.

24 лістапада стала вядома, што звольнілі яшчэ аднаго ды-джэя – Вадзіма Кірэева, які таксама распавёў пра рэйтынг беларускіх гарадоў. Прычына звальнення яму не паведамлялася.

## Парушэнні падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

24 верасня старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына на паседжанні камісіі выказалася пра журналістаў, якім дазволяць працаваць у адмысловым прэс-цэнтры падчас выбараў: *"З журналістамі, якія працуюць на замежныя мэдыі, усё зразумела. Яны акрэдытуюцца праз Міністэрства замежных спраў. А што рабіць з нашымі? Прапаную прапускаць толькі прадстаўнікоў цэнтральных мэдыяў. Бо калі мы дазволім уваход і прадстаўнікам раённых газэт, то ўсім ня хопіць месца. Яшчэ ж ёсьць блогеры. А кожны з іх лічыць сябе сродкам масавай інфармацыі. Я днямі адкрыла на сваім кампутары партал TUT.by. Зацікавіў матэрыял пра знакамітых людзей і іх хатніх улюбёнцаў. І хто вы думаеце, гэтыя знакамітыя людзі? Адны блогеры!"*

Пасля гэтага чальцы ЦВК аднагалосна выказаліся за тое, каб доступ у Палац Рэспублікі, дзе традыцыйна месціцца выбарчы прэс-цэнтр, атрымалі толькі прадстаўнікі цэнтральных беларускіх мэдыяў.

Паколькі заканадаўства гарантуе аднолькавыя правы ўсім зарэгістраваным медыям, БАЖ звярнуўся ў ЦВК за тлумачэннямі. У адказ на гэта 1 кастрычніка старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына паведаміла: *"Перавага цэнтральных СМІ не перашкаджае запрашэнню прадстаўнікоў рэгіянальных выданняў пры наяўнасці ўмоў для размяшчэння ўсіх запрошаных асоб. Ужыванне ў Палажэнні слова "цэнтральныя" абумоўлена агульнаўжывальным дзяленнем СМІ па тэрыторыі распаўсюджвання".*

19 кастрычніка вядомай беларускай журналістцы Ірыне Халіп, даверанай асобе кандыдата ў дэпутаты Аксаны Юшкевіч, адмовілі ў выступе на дзяржаўным "Радыё Мінск".

22 кастрычніка зварот гомельскага актывіста Уладзіміра Няпомняшчых, які абіраўся па Гомельскай-Цэнтральнай акрузе № 33, меліся трансляваць а 19.00 – але знялі з эфіру. Першым пунктам праграмы працы кандыдата ў парламенце быў пазначаны імпічмент Лукашэнкі. У звароце Няпомняшчых таксама прапаноўваў абмежаваць ахову прэзідэнта двума супрацоўнікамі і заяўляў, што будзе дамагацца для дэпутатаў мінімальнай пенсіі.

22 кастрычніка на "Радыё Мінск" не выйшаў у эфір запісаны раней зварот актывісткі грамадзянскай кампаніі "Еўрапейская Беларусь", зарэгістраванага кандыдата ў дэпутаты Аксаны Юшкевіч. Галоўны рэдактар радыёпраграмы В. Маліноўскі адзначыў, што выступ кандыдаткі ўтрымліваў заклікі да зрыву выбараў. Аднак, сярод выразаў кандыдаткі былі і такія: "Не верце дыктатару і яго памагатым, яны хлусяць, ім пляваць на вас", "Калгаснай дыктатуры – баста! Астравецкай АЭС – баста!".

23 кастрычніка ў эфіры тэлеканала "Беларусь 3" не быў паказаны тэлевыступ кандыдаткі ў дэпутаты ад АГП па Іўеўскай выбарчай акрузе № 54 Ірыны Давідовіч. Гарадзенская абласная выбарчая камісія паведаміла Давідовіч аб тым, што выбаркам не мае паўнамоцтваў абавязаць сродкі масавай інфармацыі трансляваць альбо публікаваць тыя ці іншыя матэрыялы.

Больш разгорнуты адказ кандыдатка атрымала ад кіраўніцтва Тэлерадыёкампаніі "Гродна". У адказе на скаргу аб парушэнні права на свабоду выказвання меркавання і на свабоду абірацца і быць абранай на выбарах, было афіцыйна заяўлена, што фактаў ціску на кіраўніцтва РУП РТЦ "Тэлерадыёкампанія "Гродна" з боку трэціх асоб не было, а рашэнне было прынятае самастойна рэдакцыйнай радай.

Сярод прычынаў зняцця тэлевыступу кандыдаткі Давідовіч называюцца наступныя два выразы:

1. "Усё, што робіцца ўладай, – ператварыць людзей у рабоў. Рабы маюць толькі адно выйсце – збегчы ў іншую краіну". Адказ: *"...Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь прадугледжаная крымінальная адказнасць за выкарыстанне рабскай працы... У нас у краіне не бачна нават прыкметаў замацавання рабаўладальніцкага ладу. Выснова – Вашыя звесткі не адпавядаюць рэчаіснасці, іх распаўсюд... можа прывесці да сацыяльна-палітычнай напружанасці ў краіне. А з іншага боку – гэта прамая знявага усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь".*

2. "Як не ўзгадаць Беларускую АЭС. Будаўніцтва крывымі рукамі". Адказ: *"З пытаннем аб адпаведнасці ці неадпаведнасці дадзеных звестак мы звярнуліся да кіраўніцтва Беларускай АЭС і атрымалі не толькі аргументаванае і падмацаванае фактамі абвяржэнне, але і папярэджанне аб тым, што ў выпадку распаўсюду не адпавядаючых рэчаіснасці звестак, якія зневажаюць дзелавую рэпутацыю, ад телерадыёкампаніі запатрабуюць распаўсюдзіць іх абвяржэнне".*

Такім чынам, у Тэлерадыёкампаніі "Гродна" прыйшлі да высновы, што Ірына Давідовіч у сваім выступе "*выкарыстала не адпавядаючыя рэчаіснасці звесткі, якія зневажаюць гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю, якія могуць прывесці да сацыяльна-палітычнай напружанасці"*.

30 кастрычніка акруговая выбарчая камісія вынесла папярэджанне Давідовіч за размяшчэнне ў сваіх акаўнтах сацыяльных сетак відэароліка з тэлевыступам для Гарадзенскага тэлебачання. 13 лістапада Гарадзенскі абласны суд у асобе суддзі Сяргея Піпко не задаволіў скаргу на гэтае папярэджанне.

24 кастрычніка брэсцкую актывістку кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Паліну Шарэнду-Панасюк выключылі з ліку кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў пасля яе выступу па тэлебачанні. 28 кастрычніка старшыня абласной выбарчай камісіі Аляксандр Каляда, які разглядаў скаргу Шарэнды-Панасюк на гэтае рашэнне, заявіў сярод іншага, што словы "захаванне ўлады дыктатарам", якія прагучалі падчас перадвыбарчага выступу на тэлебачанні, з'яўляюцца абразай. "Самае горшае, што гэтую фразу распаўсюдзіла кандыдат у дэпутаты", – адзначыў ён.

24 кастрычніка галоўны рэдактар афіцыйнай "Маладзечанскай газеты" Віталій Крупянькоў "прапанаваў" кандыдату ў дэпутаты Валянціну Цішко прыбраць першы сказ праграмы Руху "За Свабоду", дзе гаварылася пра адсутнасць дэмакрытыі і свабодных выбараў у Беларусі. Да тэкста кандыдата рэдактар прэтэнзіяў ня меў, заўвагі былі толькі да праграмы Руху. Цішко распавёў, што каб выбаршчыкі маглі азнаёміцца з астатнімі пунктамі праграмы Руху "За Свабоду", кандыдат пайшоў на кампраміс з выданнем, і прыняў праўкі.

28 кастрычніка не была выпушчаная ў эфір відэапрамова кандыдата ад Партыі БНФ па Мазырскай выбарчай акрузе № 42, актывіста руху "Еўрапейская Беларусь" Міхася Бандарэнкі. Забарону на трансляцыю ў эфіры свайго тэлевыступу ён звязаў з выказваннямі пра існаванне ў Беларусі дыктатуры і пра неабходнасць Лукашэнку сысці.

31 кастрычніка кандыдатцы ў дэпутаты ад партыі АГП па Мінскай-Каменнагорскай выбарчай акрузе №101 Дзіяне Чарнушынай было адмоўлена ў публікацыі перадвыбарчай праграмы ў газеце "Звязда". Кіраўніцтва РВУ "Выдавецкі дом "Звязда" палічыла, што ў яе выступе маюцца прыкметы "абразы і паклёпу ў дачыненні да службовых асоб Рэспублікі Беларусь".

1 лістапада тэлевыступ кандыдата ў дэпутаты па Старавіленскай выбарчай акрузе № 105 Мікалая Казлова, які павінен быў прагучаць на тэлеканале "Беларусь 3", не выйшаў у эфір.

6 лістапада афіцыйная раённая газета "Бабруйскае жыццё" адмовілася друкаваць перадвыбарчую праграму кандыдата Аляксандра Комара, які балатаваўся па Бабруйска-Ленінскай выбарчай акрузе № 78 ад Аб'яднанай Грамадзянскай партыі. Ён атрымаў адмову і копію пратакола паседжання Рэдакцыйнай рады. У пункце 5 дакумента паведамлялася: *"Кандыдату ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сёмага склікання Комару А. І. рэкамендавана ўнесці змяненні ў фармулёўку ў пункце "Як гэта зрабіць?". Азнаёміць кандыдата ў дэпутаты з рашэннем Рэдакцыйнай рады. У выпадку нязгоды кандыдата з рашэннем Рэдакцыйнай рады адмовіць яму ў публікацыі перадвыбарчай праграмы ў газеце "Бабруйскае жыццё""*. Комар распавёў, што ён адмовіўся змяніць выраз "з Лукашэнкам у краіны няма будучыні".

17 лістапада, у дзень галасавання, адбыўся інцыдэнт з блогерам Сяргеем Пятрухіным на выбарчым участку № 2 у Брэсце. З раніцы да поўдня ён назіраў за галасаваннем на гэтым участку, потым з'ехаў і вярнуўся ўвечары, каб пабачыць падлік галасоў. Аднак зноў трапіць на выбарчы ўчастак у блогера не атрымалася, бо старшыня ўчастковай выбарчай камісіі дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта Валерый Шчарбач пазбавіў яго акрэдытацыі за тое, што ён

размясціў у інтэрнэце відэа з буфета, дзе была танная гарэлка і ежа, а ў прыбіральні адсутнічала папера.

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў СФЕРЫ СМІ

**3 студзеня** чытачы даслалі ў газету "Нашу Ніва" дакумент Міністэрства аховы здароўя (распаўсюджаны раней па ўсёй краіне) наступнага зместу: *"Міністэрства нагадвае пра падпіску на першае паўгоддзе 2019-га на газету "Медыцынскі веснік" і часопіс "Здравоохранение. Helthcare" з дадаткам – часопіс "Медыцынскія веды", у тым ліку і ў сваіх падначаленых арганізацыях. Аб выніках падпіснай кампаніі, у тым ліку ў сваіх падначаленых арганізацыях, да 28 снежня праінфармаваць Міністэрства аховы здароўя".*

**21 мая** на ААТ "Магілёўскі завод "Строммашына" быў выдадзены адмысловы загад за подпісам упраўляючага прадпрыемствам Сяргея Грынкевіча, у якім адказным за ідэалагічную работу ў структурных падраздзяленнях таварыства загадвалася да 31 мая правесці падпісную кампанію на другое паўгоддзе сярод працаўнікоў калектыва. Кантроль за выкананнем загада ускладаўся на намесніка ўпраўляючага па ідэалагічнай рабоце і сацыяльным пытанням І. Хадорчанка. Загад упраўляючага "Строммашыны" быў выдадзены на падставе ліста з адміністрацыі Ленінскага раёна Магілёва "Аб садзейнічанні і арганізацыі падпіскі на 2-е паўгоддзе 2019 г." Для падпіскі прапаноўваліся газеты "Советская Белоруссия", "Веснік Магілёва" і "Могилевские ведомости".

**14 чэрвеня** з аддзела адукацыі Пастаўскага райвыканкама ва ўсе школы Паставаў быў разасланы ліст з патрабаваннем выпісаць па два экзэмпляры часопіса "Юный спасатель" на кожны клас, паведаміў eschool.by. У Пастаўскім аддзеле па надзвычайных сітуацыях прызналі, што накіроўвалі ліст рэкламнага характару наконт часопіса "Юный спасатель" ў аддзел адукацыі, але без патрабавання афармляць падпіску ў школах прымусова.

**16 снежня** Законам "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2020 год" было прадугледжана, што ў 2020 годзе выдаткі на фінансаванне сферы сродкаў масавай інфармацыі складуць 164,2 млн руб. Пры гэтым 143,1 млн рублёў складзе бюджэтная падтрымка дзяржаўных тэлебачання і радыё, 7,3 млн – друкаваных выданняў.